

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

№ 5 (7) Май 1994 May Год выд. 2

# ДЗЕВЯТНАЦЦАЦЬ ЧАЛАВЕК НА... АДНУ БЕЛАРУСЬ! О-ХО-ХО...

Кажуць людзі, у краіне пачалася прэзідэнцкая гонка. Кажуць яшчэ, што найактыўнейшым чынам змагаюцца за подпісы патэнцыяльных выбаршчыкаў патэнцыяльныя прэтэндэнты ў патэнцыяльныя прэзідэнты. І, што дакладна вядома, аж дзевятнаццаць падобных прэтэндэнтаў спарадзіла нашая маленькая Беларусь! Такой колькасці найразумнейшых ды найталенавіцейшых спадароў, далібог, не бачыла яшчэ ні адна краіна ў свеце.

Каго толькі няма сярод найлепшых сыноў айчыны!

Не маглі абысціся без свайго кандыдата «чырвоныя паны» —дырэктары ды старшыні нашых калектыўных сельгаспадарак. Праўда, газета «Свабода» сцвярджае, што нават танная кілбаса не можа стаць гарантам патрэбных ста тысяч подпісаў, а калі ўзяць у разлік і абмежаваны запас гэтага прадукту ў нашых «паноў», то надзея назбіраць сваю квоту сярод прыгоннага постсавецкага беларускага сялянства для спадара Дубко і кампаніі здаецца болей чым прывіднай. Дзеля справядлівасці зазначым, што наўрад ці ёсць шанцы і ў лідэра Беларускай сялянскай партыі Яўгена Лугіна. Павага да піянера беларускага фермерства не можа пераважыць яго не надта вялікую папулярнасць у шырокіх колах насельніцтва. Папраўдзе, аглядальнікаў моцна здзівіў палітычны трук БСП, якая практычна адкалолася ад «Вясны-94», знайшоўшы самага дастойнага ў сваіх шэрагах. Застаецца спадзявацца, што на наступных этапах прэзідэнцкай кампаніі галасы прыхільнікаў вельмі паважанай мной партыі і яе лідэра будуць аддадзены ў імя рэальнай перамогі дэмакратыі.

Наогул, варта, бадай, зазначыць нейкую несур'ёзнасць сёлетняй кампаніі. Беспрацоўны, нікому невядомы інжынер, правінцыйны настаўнік... Гэта, як той казаў, усё добра, але далёка недастаткова для таго, каб дзесяцімільённы народ мог аддаць свае галасы за «ката ў мяху».

Галоўныя прэтэндэнты на перамогу вызначаны на Беларусі даўно — «белавежскі зубр» Станіслаў Шушкевіч, такі ж самы «зубр», толькі ў іншай скуры, Вячаслаў Кебіч, нескароны барацьбіт з карупцыяй і ўрадавымі чыноўнікамі Аляксандр Лукашэнка, непахісны ў сваёй непавазе да кампрамісаў Зянон Пазьняк і, магчыма, трошкі вядомы сваёй мэрска-мецэнацкай дзейнасцю Генадзь Карпенка.

Памятаеце, Шцірліц раскладаў на стале малюначкі з выявамі босаў Рэйха і пакутліва думаў: «ХТО?». Паспрабуем заняцца гэтым жа і мы. Найбольшую сілу, на мой погляд, уяўляе «самы рэальны», як ён сам сябе назваў, прэтэндэнт — прэм'ер сённяшняга беларускага ўрада. Рэкламны фінт з аб'яднаннем грашовых сістэм — для шырокага неадукаванага і палітызаванага кола насельніцтва Беларусі, падкормка ў выглядзе разавых выплат — пенсіянерам, больш чым шчырыя выказванні пра «нацыянал-радыкалаў» — для афіцэраў ды «сабаран», памножаныя на магутную армію чыноўнікаў выканаўчых структур і буйнапрамысловага дырэктарскага корпуса павінны забяспечыць жалезнае прыкрыццё гэтаму кандыдату. Факты шматлікіх камбінацый са зборам подпісаў, якія праскокваюць часам у друку, сведчаць пра магутную, як у бронецягніка, прабіўную сілу яго каманды.

З другога боку, прозвішча Кебіч кідае ў дрыжыкі беларуса, які тры гады таму ганарыўся найбагацейшай і наймагутнейшай у сістэме СССР краінай, а цяпер з роспачам лічыць «зайцоў», якія пладзяцца з неймавернай хуткасцю, нашмат апярэджваючы ўсе прыродныя стандарты. Прозвішча Кебіч прымушае сціскацца кулакі ў тых, каму найперш баліць за слова «Беларусь». Прозвішча Кебіч сталася раптоўна галаўным болем нават для М.Грыба, які рашуча выказаўся за нязменнасць Канстытуцыі, парушыць каторую наважыўся паважаны кандыдат. Болей таго, спадар Лукашэнка паспеў запэцкаць кебічаву каманду зычнымі крыкамі з трыбуны ВС, і адмыцца ад бруду ў свядомасці жабрака-беларуса саўмінаўскім чыноўнікам, нават калі яны крыштальна чыстыя, будзе надзвычай цяжка.

Сам спадар Лукашэнка атрымаў шмат прызавых ачкоў падчас сваёй парламенцкай актыўнасці. І шмат хто прагаласуе менавіта за яго. Але... Па-першае, у запале антыкебічавай барацьбы ён неасцярожна раскрытыкаваў грашовае пагадненне. І Народны Рух, які паставіў сабе за мэту інтэграваць Беларусь у Расію, тут жа адхрысціўся ад даўняга сябрука вуснамі свайго лідэра Гайдукевіча. Па-другое, стыль маўлення і багацце лексічных адзінак, якое злятае з языка паважанага Аляксандра Рыгоравіча, выклікае катэгарычнае непрыняцце ў інтэлігенцыі краіны ці любога больш-менш адукаванага і культурнага чалавека.

Іншая справа — Станіслаў Шушкевіч. Адукаваны, культурны, беларус, інтэлігент — што можна яшчэ пажадаць Прэзідэнту? Хіба што рашучасці, якой так не хапала гэтаму чалавеку на пасадзе спікера. Але рашучасць — справа нажыўная, і гледзячы на тое, як разгортваецца агітацыя за гэтага кандыдата, здаецца, што больш дзейснага чалавека на Беларусі наогул не знайсці.

Горш справа з Зянонам Пазьняком. Яго залішняя катэгарычнасць і залішняя рашучасць у спалучэнні з устойлівым вобразам «нацыяналіста» даволі часта выклікае рэакцыю «хто заўгодна, толькі не Пазьняк». З іншага боку, тыя ж самыя якасці паварочваюцца і сваімі вартасцямі, і неаднойчы даводзілася чуць: «Толькі Пазьняк і наведзе парадак!». Чаго ў выніку акажацца ў актыве Пазьняка болей — харызмы ці поўнага адмаўлення, — сёння прадказаць немагчыма, але абсалютна зразумела, што раздрай у шэрагах «антыкебічаўскай» апазіцыі наўрад ці дапаможа ў барацьбе з «рэальным» прэтэндэнтам. Мы, вядома, пачакаем да 14 мая, калі стануць вядомыя вынікі збору подпісаў. Мы, вядома, прыйдзем на выбарчыя ўчасткі, каб аддаць свой адзіны і непаўторны голас за найлепшыя спадзяванні.

Вось толькі наўрад ці тыя выбары адбудуцца — па прагнозах сацыёлагаў, больш за 55 працэнтаў беларусаў наогул не завітаюць да выбарчых урнаў. Паўторныя, ці трэція, ці чацвёртыя выбары будуць прыводзіць толькі да ўсё горшых вынікаў.

Беларусь сёння стаіць на небяспечнай мяжы, калі пагроза афіцыйнага захопу ўлады (праз выбары) чорнымі сіламі памнажаецца на пагрозу кансервацыі ўлады ў выніку несапраўдных выбараў, і тады ўлада гэтая натуральна трансфармуецца ў непрыхаваную дыктатуру.

Застаецца адзіны шанц для Беларусі — абраць таго, хто любіць Беларусь.

КУЛЬТУРА **Максім ГІЛЕЎСКІ.**



# ХТО БУДЗЕ ПЕРШЫМ ПРЭЗІДЭНТАМ?

Першыя ў гісторыі Беларусі прэзідэнцкія выбары вызначаны на 23 чэрвеня гэтага года. Каб заявіць сваю кандыдатуру ды зарэгістравацца, неабходна сабраць у падтрымку 70 подпісаў народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета або 100 тысяч подпісаў грамадзян. Першыя каментарыі, пасля наспех ухваленага закона „Аб выбары прэзідэнта Беларусі" адзначылі, што закон гэты зроблены пад Вячаслава Кебіча — цяперашняга прэм'ер-міністра.

В. Кебіча падтрымлівае камуністычная большасць у беларускім парламенце — перад усім крайне камуністычны і прарасейскі клуб „Саюз". Можа ён таксама разлічваць на падтрымку наменклатуры ды калгаснай беларускай вёскі, у якой слова старшыні калгаса абавязвае ўсіх. Кебіч, пасля адстаўкі галоўнага свайго працаўніка — абвінавачанага ў карупцыі былога старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, з'яўляецца галоўным кандыдатам на пост прэзідэнта.

Згаданы тут Станіслаў Шушкевіч карыстаўся вялікай папулярнасцю ў грамадстве. Аднак у час нядаўняга палітычнага крызісу выявілася, што палітык з яго не надта дзейсны. Будучы амаль тры гады лідэрам дзяржавы, не ўмеў стварыць сваёй палітычнай базы — яго мара пра моцную цэнтрысцкую партыю засталася няздзейсненай. Будучы пры ўладзе, вёў сябе як палітык без выразна акрэсленага вобліку. Замяніўшы навуковую кар'еру на кар'еру прафесійнага палітыка, не ўмеў вывесці Беларусі з крызісу. Як ва ўнутранай палітыцы (рынкавая рэформа), так і ў вонкавай (эканамічны саюз з Расеяй) не ступіў ён на рашучы шлях. Эканамічная сітуацыя ўсё пагоршвалася, а камуністы ўхапіліся за прапагандысцкі лозунг — „паглядзіце, дэмакрат пры ўладзе, а гаспадарка развальваецца". Пасля адстаўкі Шушкевіча апазіцыя галасна выносіла пратэст, але агульна адчула палёгку.

Калі ідзе пра апазіцыю ў Беларусі, згуртаваную на платформе Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" (БНФ) і яго лідэра Зянона Пазьняка, варта адзначыць, што па-рознаму ацэньваюцца сілы гэтай жа апазіцыі. Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада Алега Трусава, якая ўваходзіць у склад апазіцыі, падтрымала кандыдатуру С. Шушкевіча — пэўна з думкай, каб сабраў ён частку галасоў вясковых і маламестачковых выбаршчыкаў, прынцыпова больш кансерватыўных. Лідэр БНФ, Зянон Пазьняк, каб прыняць удзел у прэзідэнцкіх выбарах мусіць сабраць 100 тысяч подпісаў грамадзян, бо апазіцыя мае ў парламенце ўсяго 30 мандатаў — значыць, бракуе ёй 40 і хутчэй за ўсё не ўдасца іх сабраць. Хаця, трэба тут адзначыць, апазіцыя і прагматычныя камуністы супраць беларускага бетону ў парламенце ўмеюць згуртавацца ў ліку каля 110 дэпутатаў.

БНФ мае найлепшую з усіх арганізацый базу ў тэрыторыі ды можна лічыць, што без клопату збярэ 100 тысяч подпісаў. У спіску папулярнасці, апрацаваным пракамуністычнай і расейскамоўнай газетай „Савецкая Беларусь", БНФ узяў першае месца, апярэджваючы камуністаў. Апазіцыя ўсведамляе аднак, што кандыдатура З. Пазьняка надзвычай супярэчлівая. У пачатках заснавання БНФ Пазьняк выявіў сябе як беспардонны змагар за нацыянальнае адраджэнне Беларусі. Сёння з той жа рашучасцю выступае супраць валютнай уніі з Расеяй. З аднаго боку з'яўляецца ён аб'ектам захаплення, а з другога — спакойная душа беларуса ўспрымае яго стрымана. Ведаюць пра гэта лідэры апазіцыі ды можа аказацца, што ў рашаючы момант выбраў падтрымаюць яны менш супярэчлівага палітыка, які, як і З. Пазьняк, будзе выказвацца за суверэнітэт Беларусі.

Палітыкам такім можа аказацца лідэр Партыі народнай згоды Генадзь Карпенка. Выступаючы супраць валютнай уніі з Расеяй, прыводзіць ён вобразны прыклад: „Канада і ЗША маюць аб'яднаныя гаспадаркі, але валюты — асобныя". Карпенка з'яўляецца да таго ж інтэлігентным палітыкам — пазбягае выказванняў на супярэчлівыя тэмы, заўсёды ўсміхаецца ды набывае штораз большую папулярнасць. Будучы мэрам Маладзечна, паказаўся як дэмакратычны палітык, падтрымлівае добрыя адносіны з нацыянальнымі меншасцямі. Апрача роднай добра ведае польскую і расейскую мовы. Карпенка часта бывае на мітынгах БНФ. Часта адзначае, як і яго партыя, што хоча быць палітыкам нацыянальнага пагаднення.

Супрацьстаўныя Г. Карпенку рысы характару ўвасабляе кіраўнік парламенцкай камісіі па справах барацьбы з карупцыяй Аляксандр Лукашэнка. Камуністы, ведаючы пра яго варожыя адносіны да Станіслава Шушкевіча, паставілі Лукашэнку на кіраўніка гэтай жа камісіі з мэтаю адсунуць Шушкевіча ад улады. Зрабіў гэта, але ў дадатак аказаўся яшчэ амбітным палітыкам — пакалупаўшыся ў дасье, на Шушкевічу не спыніўся. Сёння, з увагі на карупцыю, дамагаецца адстаўкі іншых вядучых палітыкаў, між іншым прэм'ера Кебіча. Пра карупцыю ў найвышэйшых эшалонах улады ўсе ў Беларусі гавораць. Людзі ўбачылі ў Лукашэнцы трыбуна, які ўголас гаворыць пра тое, аб чым звычайны чалавек баіцца сказаць. Лукашэнка адчуў вецер у спіну ды заявіў свой удзел у прэзідэнцкіх выбарах. Людзі Кебіча цяпер мазгуюць, як раскусіць Лукашэнку.

Па Менску ходзіць чутка — Лукашэнка ў цяперашнім парламенце ведае ўсяго двух палітыкаў з чыстымі рукамі: ён сам ды вядомы аскетычнымі паводзінамі лідэр апазіцыі Зянон Пазьняк. Хто ведае, ці Лукашэнка не будзе самай вялікай неспадзяванкай прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Калі пераможа, курс на інтэграцыю з Расеяй непамерна ўзмоцніцца.

Сярод магчымых кандыдатаў на прэзідэнта Беларусі згадваюцца яшчэ прозвішчы цяперашняга старшыні Вярхоўнага Савета Мечыслава Грыба, паэта Адама Глобуса і графа Аляксандра Прушынскага. Гэты апошні, аднак, не мае беларускага грамадзянства і нядаўна быў высланы за межы рэспублікі.

Прэзідэнт Беларусі, як і ў большасці дзяржаў СНД, будзе мець шырокія кампетэнцыі, таму надзвычай істотнымі для будучыні Беларусі, яе ўнутранай і вонкавай палітыкі з'яўляюцца чэрвеньскія прэзідэнцкія выбары.

*"НІВА"* **УЛАДЗІМІР ПАЦ**

***Паднімайся зь нізін, сакаліна сям'я,***
***Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;***
***Занімай, Беларусь маладая мая,***
***Свой пачэсны пасад між народамі!..***

*Янка Купала*

## *Ад Рэдакцыі:*

Перапрашаем нашых паважаных чытачоў за граматычныя ды стылістычныя памылкі ў друку – запраўды, немагчыма ўсяго дакладна дагледзець...

Ад гэтага часу будзем старацца зьмяшчаць матэрыялы набраныя большым шрыфтам. Ведаем, што нашу газэту чытаюць людзі, далікатна кажучы, ня першае маладосьці...

Фотаздымкі зьмяшчаем за папярэднюю аплатаю ў суме $25.00 за паасобнік...

Шчыра дзякуем Усім ДАБРАДЗЕЯМ, што прыслалі Ахвяры на выдавецтва...

Прыспары Божа Вам здароўя, шчасьця і багацтва!..

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст
1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546
USA.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor -- Nikolas Prusky
Выдавец і рэдактар -- М. Прускі

Артыкулы і дапісы могуць выяўляць пагляды, зь якімі рэдакцыя не згаджаецца.

# ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Сёння, у вырашальны для лёсу нашай дзяржавы час, мы, дэлегаты XI з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі, выказваем глыбокую занепакоенасць намерам пэўных палітычных сіл уключыць Рэспубліку Беларусь у склад Расійскай Федэрацыі. Першы крок да гэтага – падпісанне ў Маскве Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Адначасна рыхтуецца ўнясенне кан'юнктурных папраўак у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якая стала непарушным Законам для ўсіх.

Мы глыбока перакананы, што гэтыя супрацьзаконныя акты вядуць нашу рэспубліку да страты суверэнітэту, незалежнасці і ператварэння яе ў каланіяльны прыдатак Расійскай Федэрацыі для размяшчэння на тэрыторыі беларускай зямлі стратэгічнай зброі, якая нясе пагрозу ядзернага знішчэння беларускага народа, які ўжо зведаў жахі двух войнаў за апошняе стагоддзе.

Мы ўпэўнены, што ў самым блізкім часе гэта прынясе ўсім пластам нашага грамадства незлічоныя сацыяльна-эканамічныя беды. Нашай гаспадаркай будзе кіраваць чужы капітал, у якога не будзе ніякай зацікаўленасці развіваць нацыянальную эканоміку, культуру, навуку, мову і літаратуру. Гэтак званая рублёвая зона нічога не дасць нашаму народу. Яна з'яўляецца нічым іншым, як палітычным манеўрам у выбарчай прэзідэнцкай кампаніі. Падобныя ўчынкі ўладных структур прыніжаюць годнасць нашай краіны і яе народа, вядуць да здрады ідэям нацыянальнага адраджэння, адбіраюць будучыню ў нашых дзяцей і ўнукаў.

Які суверэнітэт і незалежнасць без свайго бюджэту, без сваёй фінансавай сістэмы, без уласнай валюты і Нацыянальнага банка?!

Цяперашнія ўладныя структуры павінны адкрыта і сумленна сказаць беларускаму народу, што яны робяць усё, каб ліквідаваць дзяржаўнасць і незалежнасць нашай радзімы. Хопіць падманаў і хітрых выкрутаў. Народ і гісторыя не даруюць здрады. Свабода і самастойнасць, якіх беларускі народ чакаў і за якія змагаўся больш пяці стагоддзяў, не змогуць быць задушаны і прададзены. Шчаслівы шанц адраджэння народнай гаспадаркі, гістарычнай памяці, нацыянальнай культуры, навукі, мовы і літаратуры не павінен быць упушчаны!

Выказваем спадзяванне, што грамадзяне Расіі, і ў першую чаргу расійскай інтэлігенцыі, зразумеюць нашу занепакоенасць, наш клопат і падтрымаюць нас і гэтым засведчаць сваю добрую волю, сваю шляхетнасць і сваю братнюю павагу да Беларусі.

Наперадзе – выбары прэзідэнта. Не абмануцеся і тут, шаноўныя грамадзяне! На сваім вопыце вы ведаеце, як часта словы сённяшніх кіраўнікоў не супадаюць са справамі. Дык не верце неабгрунтаваным абяцанням! Не можа быць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і той, хто не ведае нават мовы свайго народа!

Мы асуджаем здраду будаўніцтву суверэннай Рэспублікі Беларусь!

Мы асуджаем здраду ідэалам Беларускага Адраджэння!

Мы рашуча супроць уключэння ў склад Расійскай Федэрацыі нашай Бацькаўшчыны, нашай Дзяржавы, нашай роднай Беларусі.

**XI З'ЕЗД САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ.**

## ЖЫВЫ ФАЛЬКЛОР

❖

*Нас за Бугам не чакаюць*
*І ў Маскве не абдымаюць.*
*Самастойна трэба тут*
*Будаваць свой родны кут.*

❖

*Канстытуцыю прымалі,*
*Шчыра ў ладкі мы пляскалі,*
*Ды нядоўга, бо, пся маць,*
*Трэба новую прымаць!*

"Звязда"

## ХРОНІКА ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАМПАНІІ

# ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА ПРЭТЭНДЭНТАЎ ВЫЯЎЛЯЕ ПАДЗЕЛ БЕЛАРУСІ НА ЗАХАД І УСХОД?

**Поўным ходам ідзе збор подпісаў за прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта. Нейкай афіцыйнай інфармацыі па колькасці сабраных подпісаў няма, таму журналісты звычайна карыстаюцца прыблізнай інфармацыяй з рук кіраўнікоў і актывістаў ініцыятыўных груп, якая яшчэ не можа быць дакладнай. Наперадзе яшчэ працэс рэгістрацыі і праверкі падпісных лістоў. Тым не менш паведамім, што на 5 мая былі звесткі аб наступнай колькасці сабраных подпісаў:**

**За В. Кебіча -- 150 тысяч. Ініцыятыўная група не збіраецца на гэтым спыняць збор подпісаў.**

**За А. Лукашэнку -- 73,5 тысячы.**

**За Г. Карпенку -- каля 60 тысяч.**

**За С. Шушкевіча -- каля 50 тысяч.**

**Члены ініцыятыўных груп па збору подпісаў за С. Шушкевіча і А. Лукашэнку адзначалі, на іх думку, пэўныя цяжкасці ў здачы падпісных лістоў, спробы іх затрымкі ў райвыканкомах.**

ЗВЯЗДА

*У штаб-кватэры БНФ на стандартнай карце Беларусі ад рукі спецыяльна праведзена лінія былой савецка-польскай мяжы, якая падзяляе Беларусь на заходнюю і ўсходнюю часткі. Відаць, гэта не выпадкова, бо пры агітацыйнай рабоце БНФ, як, верагодна, і іншым партыям, даводзіцца ўлічваць адрозненні ва ўяўленнях і менталітэце «заходнікаў» і «ўсходнікаў».*

Хоць, відавочна, Беларусь не мае такога жорсткага падзелу на Усход і Захад, як Украіна, што, дарэчы, добра выявілася там на нядаўніх парламенцкіх выбарах, тым не менш перадвыбарная актыўнасць у абласцях паказвае, што пэўныя адрозненні ў настроях на Захадзе і Усходзе Беларусі існуюць. Гэта і імкнуцца выкарыстаць палітычныя партыі, што ўключыліся ў прэзідэнцкую гонку. Груба гаворачы, на Захадзе Беларусі, як і на Захадзе Украіны, шукаюць і атрымліваюць падтрымку нацыянальна-дэмакратычныя сілы, на Усходзе -- камуністы. Гэта, аднак, гаворыць не аб абсалютных сімпатыях насельніцтва (аб чым можна будзе гаварыць толькі пасля падвядзення вынікаў галасавання), а аб адносных.

Беларускі народны фронт разам са сваім лідэрам Зянонам Пазняком апошнім часам паспеў арганізаваць агітацыйныя паездкі амаль ва ўсе раёны Гродзенскай вобласці, цяпер на чарзе -- Брэсцкая. Чаму менавіта на Захад едуць агітатары БНФ? «Таму што там, на Захадзе, агітацыя за нашы каштоўнасці і нашага кандыдата прыносіць найбольшы плён, -- тлумачыць сакратар управы БНФ Віктар Івашкевіч. -- Там нашымі прыхільнікамі становяцца нават пенсіянеры. Цяперашнія пенсіянеры Магілёўшчыны ў часы маладосці сядзелі ля піянерскіх кастроў, а гародзенскія мелі кавалак зямлі, пра які яны яшчэ і цяпер памятаюць». Відаць, не выпадкова і тое, што ў ініцыятыўнай групе па збору подпісаў за Зянона Пазняка зарэгістравана ўсяго каля 200 жыхароў Магілёўскай і 100 -- Гомельскай абласцей і ажно 700 -- у Гродзенскай вобласці. І, як заўважыў В. Івашкевіч, на Захадзе збор подпісаў ідзе хутчэй. У штаб-кватэры БНФ яшчэ не маюць аператыўных даных збору подпісаў, але ходам кампаніі задаволены, і ў першую чаргу ў заходніх абласцях, у студэнцкім і рабочым асяроддзі.

Усход жа Беларусі вылучаецца адносна большай падтрымкай прэтэндэнта ад камуністаў Васіля Новікава. Паводле аператыўных звестак на раніцу 3 мая, якія паведаміў «Звяздзе» старшыня ініцыятыўнай групы па збору подпісаў за В. Новікава Валерый Ухналёў, з усіх 104,4 тысячы подпісаў, пададзеных за Новікава, па Мінскай вобласці сабрана было 23,5 тысячы, Віцебскай -- 16,6, Брэсцкай -- 14,8, Гродзенскай -- 10,7, Магілёўскай -- 10,2, Гомельскай -- 10,9 тысячы подпісаў. Аднак, як зазначыў В. Ухналёў, яшчэ рана гаварыць пра пэўныя тэндэнцыі, бо не ўсюды паспелі разгарнуцца. У Гомельскай вобласці, напрыклад, камуністы маюць 811 зборшчыкаў подпісаў у адрозненне ад 255 -- у Гродзенскай, 335 -- у Брэсцкай. Такім чынам, камуністы Гомельскай вобласці яўна здольныя дагнаць віцяблян ці мінчан. Прычым дастаткова хуткі збор подпісаў за В. Новікава больш сведчыць не аб падтрымцы яго асобы, а аб падтрымцы камуністычнай ідэалогіі. Бо Васіль Новікаў да выбараў зусім не быў шырока вядомы ў грамадстве, за выключэннем хіба што Мінскай вобласці. Дарэчы, Валерый Ухналёў спадзяецца, што праца зборшчыкаў подпісаў за В. Новікава марна не загіне ў выніку таго, што чакаемы 4 чэрвеня II кангрэс Народнага руху Беларусі, куды ўваходзіць ПКБ, пакіне ў якасці кандыдата толькі адну фігуру. Ухналёў мяркуе, што так жорстка пытанне на кангрэсе не будзе пастаўлена, бо гэта было б непрыстойна ў адносінах да тых, хто збіраў подпісы, і тых, хто падпісваўся.

Ёсць яшчэ дзве ініцыятыўныя групы па збору подпісаў за прэтэндэнтаў у прэзідэнты, якія вылучаюцца яркім рэгіянальным ухілам. Першая група збірае подпісы за Міколу Шэляговіча, лідэра грамадска-культурнага аб'яднання «Полісьсе». «Са 153 членаў групы 133 чалавекі збіраюць подпісы ў Брэсцкай вобласці», -- паведаміў старшыня ініцыятыўнай групы Юрый Захаранка.

Другая збірае подпісы за лідэра Польскага дэмакратычнага згуртавання Эдварда Ахрэма. Гэтая ініцыятыўная група арыентуецца, аднак, не толькі на Гродзеншчыну, дзе жыве найбольш беларускіх палякаў. Там працуюць цяпер толькі 100 зборшчыкаў з 337. Э. Ахрэм лічыць неабходным збіраць подпісы сярод усіх грамадзян Беларусі ва ўсіх абласцях. Тым не менш, на Гродзеншчыне за Э. Ахрэма падпісваюцца больш ахвотна. Ініцыятыўная група адзначае неблагі ход збору подпісаў таксама ў Віцебскай і Магілёўскай абласцях. Усяго на 4 мая ў падтрымку Э. Ахрэма было атрымана каля 8,5 тысячы подпісаў.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ПАЛЕМІКА ТЫДНЯ

Газета «Известия» (Расія) змясціла 23 красавіка пад агульным загалоўкам «Домотканый социализм с запашком портянок» змясціла дзве публікацыі: артыкул Уладзіміра Жырыноўскага «О собирательской роли России и молодых волках» і журналіста «Известий» Ота Лацыса «Капкан для молодых волков».

Артыкул Жырыноўскага ўжо атрымаў скандальны рэзананс у расійскай Думе. У артыкуле прапаноўваецца «закрыць» у Расіі аўтаномныя рэспублікі і тэрмінова замест іх аднавіць губерні на чале з губернатарамі, ператварыць у губерні краіны СНД і Балтыі — аднавіць «великое государство, империю образца 1990 года», аднавіць Расію ў межах СССР на губернскім прынцыпе. А потым — «бросок на юг, к Индийскому океану».

Ота Лацыс праводзіць паралелі паміж абяцанкамі, якія даваў немцам Гітлер, і абяцанкамі расійцам Жырыноўскага. Прыгадвае словы з чытацкага ліста ў рэдакцыю: «Страна, которая собирается жарить бифштекс на пожарах соседей, сама превратится в пепелище».

Так, ёсць у Расіі і разумныя, разважлівыя людзі. Але ці здолеюць яны стрымаць Жырыноўскага, які рыхтуецца да «броска» ў крэсла прэзідэнта Расіі, саму Расію ад спаўзання ў фашызм?




# ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ НА БЕЛАРУСІ МАЕ БОЛЬШ ЧЫМ ТЫСЯЧАГАДОВУЮ ГІСТОРЫЮ.

**На пытанні Анатоля Андруховіча адказвае прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" акадэмік Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі.**

*-- Радзім Гаўрылавіч! Мне даволі часта даводзіцца сустракацца з людзьмі, а сярод іх нямала інтэлігентаў, якія свядома, а мо і па сваёй гістарычнай неадукаванасці, сцвярджаюць, што беларускай дзяржавы ніколі не было ў гісторыі, што Беларусь -- гэта стварэнне бальшавікоў, што наша гісторыя -- надуманая і прыдуманая "бэнээфаўцамі" ці якімісь іншымі "нацыяналістамі". Як Вам бачыцца наша гісторыя?*

-- Беларускі радавод мае больш чым тысячагадовую гісторыю. Гісторыю змястоўную і багатую, якая, на жаль, найчасцей фальсіфікавалася, прытым, як гаворыцца, і справа, і злева. Нашу гісторыю ў нас адбіралі, а замест яе падсоўвалі гісторыю суседніх народаў. Беспадстаўным з'яўляецца сцвярджэнне, што беларусы паходзяць з так званай старажытнарускай народнасці, якая нібыта існавала ў IX--XII стст., а пасля разгалінавалася ў выніку распаду Кіеўскай дзяржавы. Гэта было прыдумана прапагандай дзеля апраўдання палітыкі "зліцця народаў" у адзіны "савецкі народ" ва ўсёй савецкай імперыі. На самой жа справе самазараджэнне і самаразвіццё беларусаў пачалося намнога раней -- з часу засялення тэрыторыі Беларусі славянскімі плямёнамі і ў выніку іх сужыцця з іншымі плямёнамі, якія тут былі да гэтага.

Гэта так, раней нам актыўна ўбівалі ў галовы, што Беларусь у мінулым нібыта ніколі не мела сваёй дзяржаўнасці, увесь час падначальвалася іншым краінам і атрымала сваю дзяржаўнасць толькі з абвяшчэння БССР. У рэальнасці ж ужо з сярэдзіны X стагоддзя пачалі фарміравацца дзяржаўныя ўтварэнні -- Полацкае, Тураўскае, а пазней і Наваградскае княствы. З іх асабліва вызначалася першае. І гэта была менавіта Беларуская, а не Старажытнаруская дзяржава.

Слаўную старонку ў гісторыі складае ўтварэнне ў XII--XIII стст. на тэрытарыяльнай, этнаграфічнай і культурнай беларускай аснове Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. У XV ст. тэрыторыя гэтага княства складала каля 1 млн. кв. км, а дзяржаўныя межы на поўдні даходзілі да Чорнага мора, на паўночным захадзе -- да Балтыкі, а на ўсходзе -- да ракі Дон. Сталіцай былі беларускія гарады: спачатку Наваградак, а потым Вільня. Дзяржаўнай мовай да канца XVII ст. была беларуская. Усе асноўныя заканадаўчыя акты дзяржавы былі распрацаваны на аснове мясцовага старажытнага беларускага права, што яскрава выявілася ў вядомых трох статутах Вялікага княства Літоўскага. Так што Беларусь як дзяржава існавала і насіла тады назву Вялікае княства Літоўскае.

*-- Значыць, Вы лічыце, што сённяшнія беларусы маюць поўнае права ганарыцца сваімі продкамі, якія ва ўмовах жорсткай барацьбы з захопнікамі паспяхова баранілі сваю зямлю, будавалі незалежную беларускую дзяржаву, якая ўжо ў тыя часы закладвала сваю канстытуцыю, мела свой парламент -- Сойм, самакіраванне гарадоў і земляў?*

-- Сярэдневяковая дзяржава беларусаў мела адметныя, непаўторныя рысы, якія адсутнічалі ў шэрагу тагачасных еўрапейскіх гаспадарстваў. Беларускай дзяржаве быў уласцівы адносна дэмакратычны лад, найвышэйшы ў Еўропе ўзровень развіцця тэорыі права, дасканаласць судовай практыкі. Вынікам гэтага сталіся: адсутнасць жорсткай тыраніі, усталяванне абмежаванай манархіі, урадавая абарона грамадзянскіх правоў і свабод, набліжэнне да рэлігійнай талерантнасці, этнічна-культурнай цярпімасці і інш. Усё гэта прыкметна выдзяляла Беларускую дзяржаву сярод іншых, асабліва ў параўнанні з суседняй Маскоўшчынай.

***-- Беларусь ужо мае некалькі ўласных горкіх прыкладаў "добраахвотнага" ўваходжання ў розныя саюзы. Гісторыя вучыць, што гэта ніколі дабра не прыносіла, асабліва для нас, беларусаў. Усё канчалася тым, што мы гублялі сваю незалежнасць, самастойнасць, страчвалі свой гонар і годнасць, ператвараючыся ў "тутэйшых", "насельнікаў", "заходніх рускіх"...***

-- Аб'яднанне Вялікага княства Літоўскага з Польшчай і ўтварэнне федэральнай дзяржавы Рэчы Паспалітай, сапраўды, паступова прывяло да страты беларускай дзяржаўнасці. Больш таго, беларуская мова выцяснялася з дзяржаўнага ўжытку, а ў рэшце рэшт і зусім забараняецца, ігнаруецца наша нацыянальная культура. Аб'яўленае раўнапраўе дзяржаў, законнасць, верацярпімасць становяцца ўсё больш фармальнымі, толькі на паперы.

"Далучэнне" ж у канцы XVIII ст. беларускіх земляў да Расійскай імперыі было ўсё адно, што патрапіць з агню ды ў полымя. Прыгон беларускіх сялян стаў яшчэ больш жорсткім, эксплуатацыя насельніцтва не толькі не спынілася, а і ўзмацнілася. Да таго ж распачалася моцная русіфікацыя.

Ціск русіфікацыі ўвесь час павялічваўся. Асабліва гэта відавочным было пасля лістападаўскага паўстання 1831 г. Быў закрыты Віленскі універсітэт, дзе цеплілася беларускае жыццё, забаронена дзейнасць Статута Вялікага княства Літоўскага, сама назва "Беларусь" была выкраслена з ужытку і заменена на "Северо-Западный край", зліквідавана вуніяцтва, дзе таксама трымалася беларускасць. Паслядоўна планавы характар набыла русіфікацыя ў 60--70-я гады мінулага стагоддзя, асабліва пасля паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага -- адной з самых яркіх геройчных старонак беларускай гісторыі. Цяпер на гады за-

хоўвалася ў Беларусі ваеннае становішча. З цэнтральных губерняў Расіі была заслана цэлая армія чыноўнікаў, настаўнікаў, свяшчэннаслужыцеляў, якія на практыцы ажыццяўлялі ідэю "единой и неделимой России". Землі тутэйшых землеўласнікаў перадаваліся рускім каланістам. Быў поўнасцю забаронены беларускі друк, што з'яўлялася непапраўнай стратай на шляху развіцця духоўнага жыцця беларусаў.

Падобная палітыка працягвалася і далей, у наступных дзесяцігоддзях.

-- *Мне здаецца, нават у нашай сённяшняй незайздроснай сітуацыі, вельмі важна зразумець, "хто мы, беларусы, у чалавецтве?", "навошта мы?". У нас, даруйце, нейкая нявызначанасць, прамежкавая прыналежнасць і да Захаду, і да Усходу. У нас нават "сваёй" у народа рэлігіі не аказалася. Дык трэба, нарэшце, самавызначыцца, знайсці адэкватную сабе, сваім магчымасцям нішу ў сённяшнім свеце, свой тыпалагічны рад народаў.*

-- Нягледзячы на страшэнны ўціск, ганенні, жорсткія рэпрэсіі нават у самыя змрочныя часіны свяціліся агеньчыкі беларускага жыцця. Што ж сілкавала іх, не давала пагаснуць, знікнуць у беспрасветнай цемры? Перш-наперш і галоўным чынам -- беларуская ідэя.

Нацыянальная ідэя беларусаў карэніцца ў самім этнасе, яго духоўнай існасці. Яна ёсць увасабленне гістарычнай місіі народа. Як свядомая лінія, якая ўздзейнічае на развіццё этнасу, нацыянальная ідэя фармуецца на пэўных этнасацыяльных і геапалітычных перадумовах, менталітэце, выяўляецца ў самабытнай культуры, цывілізацыі.

Беларускую ідэю ў эпоху еўрапейскага Адраджэння высока нёс Францішак Скарына, у перыяд Рэфармацыі -- Васіль Цяпінскі, выдатны дзяржаўны дзеяч і філосаф беларускага Сярэднявечча Леў Сапега...

Важную ролю ў кожнай нацыянальнай ідэі мае гістарычная памяць народа, якую больш поўна выяўляюць асобныя носьбіты яго духоўнасці, інтэлекту. Той факт, што такія буйныя прадстаўнікі беларускай шляхты, ужо ў пэўнай меры апалячанай, як Януш Радзівіл, Павел Сапега, Міхаіл Агінскі, працягвалі рабіць рашучыя крокі для аднаўлення самастойнасці Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, сведчыць аб жывучасці ідэі старой беларускай дзяржаўнасці. Духоўная ж спадчына дзяржаўнага перыяду жыцця беларусаў, у тым ліку Статут Вялікага княства Літоўскага, вялізны архіў дзяржаўных дакументаў -- вядомы пад назвай "Метрыка" -- усё гэта паслужыла апорай для нашчадкаў беларускай ідэі ў пачатку XIX ст.

Яна ў 10--20-ыя гады мінулага стагоддзя пад уплывам рамантызму фармавалася, атрымлівала пашырэнне ў асяроддзі студэнтаў і прафесуры Віленскага універсітэта. Затым аказала ўздзеянне на даследчыкаў славяназнаўства, фальклarыстыкі, краязнаўства.

Нават у даволі глухія для інтэлектуальнага жыцця на Беларусі 50-я гады моцны імпульс беларуская ідэя набывае ў літаратурнай і тэатральнай творчасці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Якасна новы этап у станаўленні беларускага руху, беларускай ідэі звязаны з нашым першым рэвалюцыйным дэмакратам Кастусём Каліноўскім. Народнікі, якія ў 80-ыя гады групаваліся вакол часопіса "Гоман", выпрацавалі цэлую праграму нацыянальнага адраджэння Беларусі. Вялікі ўклад у беларускае адраджэнне зрабіў буйнейшы нацыянальны паэт Францішак Багушэвіч.

На пачатку нашага стагоддзя разгарнула дзейнасць першая нацыянальная палітычная партыя—Беларуская Сацыялістычная Грамада, якая змагалася за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне беларускага народа і праз сваю газету "Наша Ніва" здолела выхаваць моцную кагорту палітычных і культурных дзеячаў, што адыгралі вядучую ролю ў адраджэнскім руху дзесятых-дваццатых гадоў і ў аднаўленні дзяржаўнасці Беларусі.

-- *Вось ужо трэці раз мы адзначылі вельмі важнае для Беларусі свята -- Дзень Незалежнасці. Свята, вядома, дарагое і хвалюючае для беларуса. Але... Можа варта было сказаць народу, што 27 ліпеня адбылося ўсталяванне гістарычнай справядлівасці—вяртанне некалі страчанай незалежнасці. Да гэтага дня беларускі народ ішоў праз пакуты і ахвяры.*

-- Мусіць, нам сапраўды не пашкодзіла б вярнуцца да 25 сакавіка 1918 года. Гэты перыяд вельмі важны ў адраджэнні беларускай дзяржавы. Усебеларускі кангрэс, які сабраўся ў снежні 1917 г., быў вельмі прадстаўнічым, ахопліваў усе пласты беларускага народа. Яго разгон бальшавікамі стаўся гвалтам над дэмакратыяй, над народным рухам.

Аднаўленне беларускай дзяржаўнасці адбылося ў сакавіку 1918 г., калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Гэта вышэйшы ўзлёт беларускай ідэі незалежнасці. Ролю і значэнне БНР, якую прызнаў шэраг краін Еўропы, цяжка пераацаніць. Не было б Беларускай Народнай Рэспублікі, то не было б і абвяшчэння БССР, а можа і сённяшняй Рэспублікі Беларусі, засталося б бальшавіцкае найменне -- "Западная область".

Дваццатыя гады нашага стагоддзя цяпер трактуюцца як новы ўздым беларускага Адраджэння. Сапраўды, на той час прыпадаюць пэўныя дасягненні ў галіне культуры, навукі, асветы. Тады пашырэнне мела беларусізацыя, якая абуджала да свядомага нацыянальнага жыцця даволі шырокія народныя масы. Тым не менш, новыя матэрыялы, якія цяпер адкрываюцца для даследчыкаў, сведчаць, што рэпрэсіі трыццатых гадоў, у выніку якіх было разгромлена сялянства, знішчаны многія славутыя дзеячы беларускай літаратуры, культуры, навукі, словам, цвет нацыі, узніклі не адразу. Яны рыхтаваліся, ды і рэалізаваліся, ужо з самага пачатку дваццатых гадоў, з часу ўстанаўлення савецка-бальшавіцкай улады. Спроба аднавіць беларускую дзяржаўнасць робіцца ў час нямецкай акупацыі. Гэта быў рух патрыятычных сіл. Але фашысцкія акупанты, якія спачатку абяцалі даць аўтаномію і самакіраванне, урэшце сваіх абяцанняў не выканалі.

-- *Беларусь сёння апынулася на водшыбе еўрапейскай цывілізацыі.*

*Прычына вядомая, але колькі яшчэ нам хварэць комплексам непаўнацэннасці?*

-- Беларусь сама па сабе не бедная краіна, а пры разумным гаспадаранні можа быць і вельмі багатай. Недзе ў сярэдзіне мінулага веку наш народ склаў легенду, якую прыводзіць у кнізе "Зямля пад белымі крыламі" наш слынны Уладзімір Караткевіч. Сутнасць яе ў тым, што калі Бог дзяліў між народамі землі, то беларусам дасталіся вельмі добрыя, на якіх і паўнаводныя рэкі, і вялікая колькасць азёр, лясоў, умераны клімат, багатыя ўгоддзі. Але каб людзі не зазнаваліся і працавалі, Бог даў найгоршае ва ўсім свеце начальства, якое вызначалася і вызначаецца абыякавасцю і нават варожасцю да беларушчыны, робячы краіну заложніцай іншаземнай палітыкі. Многія гады, нават стагоддзі народ не меў магчымасці выбіраць кіруючыя ўлады. Нават апошнія выбары ў наш парламент у большасці выпадкаў прайшлі па старой каманднa-бюракратычнай сістэме.

-- *Многія нашы "добразычліўцы" вельмі хочуць паказаць Беларусь гэткай спрадвечнай гаротніцай, якая разлічвае толькі на чужыя багацці.*

-- Што тычыцца прыродных багаццяў, то яны ў нас немалыя. Акрамя традыцыйна вядомых -- торфу, будаўнічых матэрыялаў, падземных пітных водаў, дарэчы, найбагацейшых у Еўропе, у нас вельмі вялікія запасы калійных і каменных соляў, сапрапеляў. Ёсць багатыя радовішчы жалезных руд, рэдказямельных элементаў, вугалю, гаручых сланцаў. Ёсць радовішчы фасфарытаў, алюмініевай сыравіны, цэалітаў. Маюцца пэўныя запасы нафты. У нас вялікія сховішчы мінеральных вод, расолаў -- поліметалічнага воднага канцэнтрату. Ёсць перспектывы здабычы золата, бурштыну, алмазаў. Пералік можна доўжыць і далей.

Багацце нашых земляў і нетраў дае грунт для ўзаемавыгаднага гандлю з іншымі дзяржавамі. Эканамічныя сувязі нам трэба не толькі традыцыйна развіваць з Усходам, але і ўсяляк мацаваць з Захадам, інтэгравацца ў Еўропу.

Сёння шмат можна паспрыяць Беларусі і геаграфічнае становішча. Рэспубліка Беларусь знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, праз яе пралягаюць шляхі з Захаду на Усход і з Усходу на Захад, а таксама з Поўначы на Поўдзень і наадварот, і павінна заняць сваё належнае месца. Богам наканавана, каб па нашых шляхах ішоў гандаль, да нас і ад нас -- культура, мір, грамадзянскі спакой, цывілізаваны парадак. І калі будуць аплочвацца наземныя і паветраныя шляхі, нафтаправоды і газаправоды па сусветных цэнах, то не страшныя будуць такія ж цэны на нафтапрадукты, іншыя энерганосьбіты.

-- *У вырашэнні многіх праблем, як мне здаецца, неабходна паяднанне сіл і намаганняў жыхароў Беларусі і беларусаў замежжа. Роўна восемдзесят гадоў назад беларускі прарок Янка Купала кінуў кліч: "На вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!!!" у 1993 г. упершыню сабраўся такі вялікі сход -- Першы з'езд беларусаў свету. А ў нас -- развал эканомікі, беднасць, палітычная нестабільнасць, ажыўленне рэакцыйных сіл, а да ўсяго -- нашу бацькаўшчыну ахінулі густыя хмары злавеснага Чарнобыля. Можа, сапраўды, здарма мы вось так паказаліся перад нашымі замежнымі суайчыннікамі? Можа, трэба было пачакаць, калі надыдзе менавіта прыдатны час?*

-- У традыцыях беларусаў, якіх вучыў векавы горкі лёс -- з карысцю выкарыстоўваць любы шанц. Якраз гэтым і кіравалася згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", якое больш за год назад выступіла з ініцыятывай правядзення з'езда, паслядоўна адстойвала гэту ідэю, узяло на сябе асноўны арганізацыйны клопат. Шанц -- першы раз за многія дзесяцігоддзі -- выдаўся нам сабрацца разам. Сабрацца дзеля таго, каб сумесна памеркаваць, якія і ў якім кірунку патрэбны нашы высілкі, каб знайсці дарогу і ісці ёю да зорнага часу Беларусі, якога даўно заслужыў наш вельмі працавіты, шчыры, лагодны, памяркоўны і тым не менш шматпакутны беларускі народ. Але найперш трэба ўсвядоміць, хто мы ёсць, што мы за народ, тым больш, што нашу гістарычную памяць вытраўлялі як толькі маглі, прытым і ў савецкі час, і ў папярэднія стагоддзі.

-- *А ці ўяўляеце вы, як Прэзідэнт згуртавання беларусаў свету, у якім бядотным стане знаходзяцца беларусы, асабліва з блізкага замежжа? Калі ж парламент і ўрад Беларусі, як і ўсе мы, пачнуць аказваць ім усякую дапамогу і ў эканамічным, і ў палітычным плане, а некаторым з іх, зразумела, па ўласным жаданні, вярнуцца на Бацькаўшчыну? Гэта асабліва тычыцца вайскоўцаў.*

-- Паяднанню павінна садзейнічаць дзяржава, у дадзеным выпадку стварэннем неабходных умоў, каб беларусы бесперашкодна маглі ладзіць паміж сабою рознабаковыя сувязі, а для нашых замежных суродзічаў, каб Бацькаўшчына ў поўным сэнсе слова стала роднай маці. Кансалідацыі нацыі павінна садзейнічаць і рэлігія, бо калі Бог даў народ, то і царква, касцёл павінны служыць свайму народу, а не суседнім дзяржавам. Нам патрэбна шырокае абуджэнне -- да свядомага нацыянальнага жыцця.

Я лічу, што мы даб'ёмся сапраўднай незалежнасці, толькі тады:

-- калі прымем сапраўдную дэмакратычную Канстытуцыю, пачнем жыць

па законах, якім будуць падпарадкоўвацца ўсе жыхары, у тым ліку і ўрад, і парламент;

-- калі пойдзем шляхам самастойнай эканамічнай палітыкі, зробім нашу краіну па-сапраўднаму нейтральнай, створым беларускае войска, увядзём свае грошы і іншыя атрыбуты дзяржаўнасці;

-- калі адмовімся ад старых "ідэалаў", якім пакланяліся -- ад Суворава да Кнорына і іншых нядобразычліўцаў Беларусі, калі, нарэшце, навучым паважаць нашыя дзяржаўныя сімвалы—бел-чырвона-белы сцяг і Пагоню;

-- калі на дзяржаўнай мове загавораць нашы ўлады -- ад Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў да сельскіх саветаў, а беларуская мова загучыць у гарадах і вёсках, а нацыянальная ідэя інтэгральнага адраджэння мовы, культуры, адукацыі, эканомікі, палітыкі, духоўнае нацыянальнае абуджэнне авалодаюць усімі жыхарамі Беларусі...

Я веру, што кожны грамадзянін Беларусі, незалежна ад яго нацыянальнасці, прыкладзе ўсе намаганні да стварэння сапраўды самастойнай дзяржавы Беларусі, у якой вольна і багата будзе жыць кожны чалавек. Жыве незалежная Беларусь!

"Беларуская Мінуўшчына"

З нагоды

# РУБЛЁВЫЯ ІЛЮЗІІ

Відаць, маюць рацыю тыя, хто гаворыць, што Вярхоўнаму Савету Беларусі /прынамсі, большасці дэпутатаў/ бракуе мужчынскіх рысаў — рашучасці, прынцыповасці, адказнасці. Што матывацыя і логіка ягоных рашэнняў чыста настраёвая. Інакш кажучы, жаночая.

Чарговую праяву так званай «жаночай логікі» можна было днямі назіраць на пасяджэннях ВС. Толькі-толькі прыняўшы новую Канстытуцыю і замацаваўшы такім чынам юрыдычную базу незалежнасці Беларусі, дэпутаты, тым не менш, ніяк не могуць, не жадаюць адважыцца на практычныя крокі па ўмацаванні суверэнітэту. У прыватнасці, нешта вырашыць наконт крэдытна-фінансавай сістэмы нашай краіны. Дык навошта было ўвогуле гэтыя гульні пачынаць, навошта было раскрываць рот і казаць «а», калі не збіраешся рухацца далей па алфавіту? Не іначай гэта жаночы капрыз сталых мужчын, якія вырашаюць дзяржаўныя пытанні выключна ў залежнасці ад настрою. Добры настрой — націснуць кнопку «за», кепскі — «супраць». Ці наадварот. Бо стан душы — вялікая таямніца.

Між тым, неакрэсленасць статуса разліковага білета Нацыянальнага банка Беларусі стварае праблемы ва ўсіх, ад бухгалтара, які не ведае, як палічыць камандзіровачныя, да кіраўнікоў заводаў-гігантаў, якія не могуць мець нармальных стасункаў з партнёрамі ў замежжы.

У сераду на пасяджэнні ВС сваімі ўражаннямі ад вандроўкі ў Маскву, у Дзяржаўную Думу падзяліліся члены дэлегацыі Вярхоўнага Савета. Народны дэпутат У. Грыбанаў лічыць палітычны спектакль у Думе ганьбай для Беларускай дзяржавы. Спадар Заламай, які ўзначальваў дэлегацыю, у асноўным цiснуў на эмоцыі, спрабаваў расейцаў разжалабіць. І грошай, у нас, маўляў, няма, каб з Расеяй за нафту расплаціцца, і заводы ў нас стаяць — вазьміце нас у рублёвую зону, інакш загінем!

На пытанне: «Ці гатова Беларусь падпісаць дамову аб аб'яднанні?» Заламай адказаў: «Хоць зараз». «Я маю на ўвазе палітычнае аб'яднанне Беларусі і Расеі», — удакладніў расейскі дэпутат. «Няма праблем. Такая дамова распрацоўваецца нашым урадам», — быў адказ.

Каб схіліць Думу да згоды на «аб'яднанне» рубля і «зайчыка», былі названы наступныя выгоды гэтай акцыі для Расеі. Беларускі падаткаплацельшчык аплачвае сёння і будзе аплачваць надалей прысутнасць у сваёй краіне расейскіх войскаў. Беларусь не бярэ і не будзе браць з Расеі платы за арэнду зямлі пад расейскімі ваеннымі базамі. Беларусь /дакладней, беларускі ўрад/ не мае нічога супраць, каб на тэрыторыі краіны заставаліся важнейшыя стратэгічныя аб'екты глабальнай сувязі для расейскага флоту і супрацьпаветранай абароны Расеі. Заставаліся столькі, колькі гэта будзе трэба Расеі. Беларусь не бярэ сёння і не будзе браць заўтра з Расеі грошай за транзіт праз нашу тэрыторыю расейскага газу і нафты.

Расейскія дэпутаты, міністры, генералы, якія слухалі гэтыя «откровения», хвалілі Беларусь за надзейнасць і стабільнасць. Адзіны, хто меў на гэты выпадак «лыжку дзёгцю», быў Гайдар. Ён сказаў прыблізна так. «Беларусь действительно стабильна. Но эта стабильность сродни кладбищенской». І растлумачыў далей вядомую ісціну, што грошы — гэта яшчэ не рынак, грошы толькі абслугоўваюць рынак, але не ствараюць яго. Урад Беларусі за ўвесь час свайго існавання нічога не зрабіў для рэфармавання эканомікі, таму калі сёння ён атрымае расейскія рублі, дык усё роўна не здолее іх разумна скарыстаць. І рублі, зрабіўшы круг, зноў вернуцца ў Расею. Беларусь жа будзе для Расеі не эканамічным партнёрам, а перманентна крэдытуемым рэгіёнам. Навошта гэта Расеі?

Расказваючы пра маскоўскую вандроўку, спадар Грыбанаў адзначыў, што калі весці перамовы з пазіцыі «возьмите нас, мы бедные, мы жалкие», дык адносіны да сябе будзем мець адпаведныя: «С холуями разговаривают только определенным образом».

Але, відаць, гэтыя словы не дайшлі да большасці дэпутатаў ВС. Рашэнне аб статуце разліковага білета Нацыянальнага банка Беларусі зноў адкладзена. Будуць чакаць, што вырашыць расейская Дума 4 красавіка.

Мы памятаем, як чакала каманда Кебіча прыезду ў Мінск расейскага прэм'ера Чарнамырдзіна, у часе візіту якога і павінна было юрыдычна аформіцца «аб'яднанне». Колькі разоў пераносілася дата, а ўсё не дачакаліся. Не вытрымалі нервы ў спадара Кебіча — сам паехаў у Маскву. І атрымаў там «гарбуза». Расейскі ўрад пасля доўгіх ваганняў адмовіўся браць на сябе адказнасць за гэтую эканамічную авантуру, перадаў справу Думе, заканадаўчай уладзе. Дума, зыходзячы з чыста палітычных меркаванняў, можа і прагаласаваць «за». Можа, нават будзе падпісана расейска-беларуская дамова. Але, як ужо неаднойчы бывала ў кароткай гісторыі СНД, Расея не стане выконваць свае дагаворныя абавязкі. Расейцы яшчэ не навучыліся глядзець на блізкае замежжа, як на раўнапраўных партнёраў. Так што ці варта марнаваць час?

Зрэшты, будучыня Беларусі залежыць не ад таго, увойдзе ці не ўвойдзе наша краіна ў рублёвую зону. Лёсавызначальнымі стануць для нас /могуць стаць/ прэзідэнцкія выбары. Іх тэрмін вызначаны. Выбары адбудуцца 23 чэрвеня, у будні дзень, які дзеля такой нагоды абвешчаны выхадным.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*«ЛіМ»*

# ЦЯЖКА ЛЮДЗЯМ РАСТЛУМАЧЫЦЬ...



Ці не адразу пасля падпісання дагавора пра аб'яднанне грашовых сістэм высокапасадныя расійскія чыноўнікі, ухапіўшыся за тэзіс Кебіча аб тым, што дагавор — толькі першы крок на нейкім там шляху, загаварылі аб непазбежнасці палітычнай і міждзяржаўнай інтэграцыі Беларусі і Расіі. (Што стаіць за гэтай дыпламатычнай фармулёўкай, тлумачыць не трэба.) А сп. Кебіч, выступаючы на прэс-канферэнцыі пасля вяртання з Масквы, без усялякай дыпламатыі проста пераказаў журналістам змест канфідэнцыяльных размоў з расійскімі лідэрамі: «Нам говорят: вступайте в конфедерацию, и все проблемы автоматически решаются». Урад гатовы перадаць суседу ці то ў якасці падарунка, ці то «ў арэнду» краіну з дзесяцімільённым народам.

Фракцыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады ВС звярнулася ў сувязі з «аб'яднаннем» грашовых сістэм у Прэзідыум Вярхоўнага Савета з патрабаваннем даручыць Генеральнаму пракурору тэрмінова правесці расследаванне і пры неабходнасці ўзбудзіць крымінальную справу супраць удзельнікаў падрыхтоўкі і падпісання гэтага дагавора. Грамада таксама накіравала адпаведны запыт Генеральнаму пракурору і звароты ў пасольствы Злучаных Штатаў Амерыкі, Расійскай Федэрацыі і ў ААН. Так што правесці «аб'яднанне» як унутрысямейны міжсабойчык двух Саўмінаў, расійскага і беларускага, не атрымалася. Пайшоў розгалас. Апазіцыя атрымала падставу абвінавачваць Кебіча ў дзяржаўнай здрадзе. І гэта ў той час, як прэм'ер-міністр прыглядаецца да прэзідэнцкага крэсла. Сапраўды, што гэта за прэтэндэнт у прэзідэнты, калі ён парушае Канстытуцыю?

У мінулую пятніцу прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі ў ВС Беларусі ладзілі ў Вярхоўным Савеце прэс-канферэнцыю з нагоды падпісання дагавора аб «аб'яднанні» і магчымых наступстваў гэтай палітычнай акцыі. З журналістамі падзяліліся інфармацыяй пра тое, як праходзілі перамовы ў Маскве. У прыватнасці, было згадана, што спачатку гаворка ішла толькі пра мытны саюз, але Кебіч была неабходна папера, якой ён мог бы размахваць як сцягам на прэзідэнцкіх выбарах. Менавіта ён і прапанаваў назваць дакумент «Дагаворам аб аб'яднанні грашовых сістэм» і тут жа падпісаў «аб'яднанне» на ўмовах Расійскай Федэрацыі, хоць умовы гэтыя супярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Было б дзіўна, каб расійцы не згадзіліся на такую «халяву». Але, як выказаўся на прэс-канферэнцыі Алег Трусаў, «Канстытуцыю на халяву не памяняеш».

Зянон Пазняк назваў маскоўскі дагавор «маразмам пераходнага перыяду і актам нацыянальнай здрады». Сёння, на думку лідэра БНФ, барацьба супраць урада Кебіча «набывае характар нацыянальна-вызваленчай барацьбы».

Пра эканамічныя аспекты рублёвай экспансіі на Беларусі гаварыў Сяргей Навумчык. Расійскія рублі, калі яны ўвогуле з'явяцца, прыйдуць на Беларусь не як падарунак, а ў якасці крэдыту. Услед за імі з'явяцца расійскія тавары, таннейшыя за нашы. А значыць, іхні рубель вернецца да іхняга таваравытворцы, назад у Расію. А за намі застанецца доўг, на пагашэнне якога Расія будзе патрабаваць правы ўласнасці на нашу зямлю і нашу прамысловасць. Гэта — перспектыва. Што ж датычыць сённяшняга дня, дык ніякага аб'яднання грашовых сістэм ні «дэ юрэ», ні «дэ факта» няма. Бо спадар Багданкевіч не падпісаў пяты пункт маскоўскага дагавора. Рэальна ёсць толькі мытны саюз, пра які ішла гаворка на перамовах з самага пачатку. Ды і саюз той нам непатрэбны. Па разліках эканамістаў, Расія павінна была б плаціць Беларусі ў год не меней 1 мільярда 300 мільёнаў долараў толькі за транзіт сваёй сыравіны і тавараў праз нашу тэрыторыю. А Беларусі для забеспячэння патрэб у нафце трэба прыблізна мільярд долараў у год.

Асобная гаворка — прысутнасць расійскіх войск у нашай краіне. Трымаць замежнае войска небяспечна, але выгадна. сказаў З.Пазняк. З Эстоніяй Расія расплачваецца нафтай за прысутнасць свайго вайсковага кантынгенту. А Беларусь выдаткоўвае на расійскае войска каля двух мільярдаў долараў са свайго бюджэту штогод. Калі тутэйшы народ аплачвае прысутнасць не сваёй арміі на сваёй зямлі, дык гэта называецца акупацыяй. Хай хто скажа, што гэта не так?

Не паспеў развеяцца прапагандысцкі флёр вакол «аб'яднання», як кіраўніцтва ВС і Саўміна ўжо шукае выйсця з непрыемнага становішча, у якое самі сябе ж і паставілі. Што ні кажы, а досыць цяжка растлумачыць людзям, як гэта мяняць толькі-толькі прынятую Канстытуцыю. Вось і сп. Грыб, ратуючы становішча і прэстыж сп. Кебіча, выступае з заявамі, што будзе знойдзена нейкае выйсце, што няма патрэбы мяняць Канстытуцыю РБ (у чым з ім згодны і прэзідэнт Ельцын), што лепей будзе адрэдагаваць той злашчасны пяты артыкул дагавора.

Зноў (у які ўжо раз!) сп. Кебіч са сваёй камандай «наступілі на граблі»...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# МЯЧЭСЛАЎ ГРЫБ ЛІЧЫЦЬ ВЫБАРЫ ПАРЛАМЕНТА МАГЧЫМЫМІ НЕ РАНЕЙ ВЯСНЫ 1995 ГОДА

*"Зьвязда"*

Дзяржаўная дэлегацыя Беларусі на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Мячэславам Грыбам, якая прыбыла напярэдадні ў Страсбург (Францыя), правяла ў сераду перагаворы з дэпутатамі і прадстаўнікамі кіраўніцтва Еўрапарламента па пытанню аб прызнанні Беларусі ў якасці дзяржавы з пераходнай эканомікай. (Такі статус нядаўна быў нададзены Расіі, што дазволіла ёй разлічваць на шэраг ільгот у галіне знешнеэканамічных адносінаў з Захадам.)

З выступленняў М. Грыба і міністра эканомікі, віцэ-прэм'ера Сяргея Лінга вынікае, што Мінск спадзяецца на садзейнічанне Еўрапарламента ў прадастаўленні Беларусі дадатковых квот на рэалізацыю ў дзяржавах Захаду беларускага тэкстылю і здабываемай у рэспубліцы калійнай солі. Ранейшыя квоты на 1994 год, па словах С. Лінга, будуць вычарпаны ўжо ў маі «з нагоды вельмі вялікага попыту на беларускі тэкстыль у Еўропе». Віцэ-прэм'ер падкрэсліў, што Мінск хацеў бы таксама атрымаць садзейнічанне ў распрацоўцы інвестыцыйных праектаў і праектаў па стварэнню ў рэспубліцы уласнай энергетычнай базы, у тым ліку па будаўніцтву атамнай электрастанцыі.

Па словах віцэ-прэм'ера, у мэтах прыцягнення ў Беларусь буйных замежных інвестыцый урад унёс у парламент прапановы па рашэнню Вярхоўнага Савета ў кожным асобным выпадку дазваляць продаж зямлі ў прыватную ўласнасць іншаземцам. (Зараз іншаземныя інвестары могуць толькі арандаваць зямлю на 99 гадоў.)

Неабходнасць прадастаўлення Мінску шэрага льгот беларускія кіраўнікі матывуюць, у прыватнасці, «непамернымі расходамі, якія вымушана несці рэспубліка з выпадку неабходнасці ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі».

Як адзначыў М. Грыб на перагаворах з дэпутатамі Еўрапарламента, на гэтыя мэты Беларусь расходуе 1/6 частку свайго дзяржбюджэту. У гэтых умовах з улікам крызісу, які назіраецца ў беларускай эканоміцы, рэспубліцы надзвычай цяжка, па ацэнцы М. Грыба, расходваць «вялікія грошы» на выкананне узятых Беларуссю абавязацельстваў у рамках міжнародных пагадненняў па скарачэнню звычайных узбраенняў. Як паведаміў С. Лінг, ліквідацыя толькі аднаго баявога танка абыходзіцца рэспубліцы прыкладна ў 2-3 тысячы $. Усяго ж рэспубліка павінна знішчыць 2,5 тысячы танкаў, пакінуўшы для сваіх Узброеных Сіл толькі 1.800 машын. Пры гэтым кіраўнік парламента падкрэсліў, што асабіста ён не лічыць праблему раззбраення выключна беларускай праблемай.

Адказваючы на пытанні дэпутатаў Еўрапарламента, М. Грыб, у прыватнасці, выказаў сумненне, што далучэнне Украіны да праграмы НАТО «Партнёрства дзеля міру» трэба расцэньваць як «больш цеснае збліжэнне» гэтай краіны з Паўночнаатлантычным саюзам. Са свайго боку ён заявіў, што не выключае магчымасці ўдзелу ў гэтай праграме і Беларусі.

Інфармуючы парламентарыяў аб палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы, М. Грыб заявіў, што лічыць верагодпай магчымасць правядзення новых парламенцкіх выбараў у краіне, але не ў лістападзе-снежні гэтага года, на чым настойвае Прэзідыум Вярхоўнага Савета, а вясной 1995 года, як гэта яшчэ ў 1990 годзе было вызначана парламентам. М. Грыб асабліва падкрэсліў, што рашэнне аб правядзенні ці непраадзенні датэрміновых выбараў знаходзіцца ў выключнай кампетэнцыі Вярхоўнага Савета.

**Даведка «Інтэрфакса»**: у сераду вечарам беларуская дэлегацыя накіруецца ў Бухарэст для ўдзелу ў міжнароднай канферэнцыі новых незалежных дзяржаў па актуальных эканамічных і палітычных праблемах, якая там адкрыецца. Гэта канферэнцыя праводзіцца пад эгідай міжнароднага фонду «Форум» і прэзідэнта Румыніі Іона Іліеску.

**«Інтэрфакс».**

# АПАЗЫЦЫЯ ЗА ПРЫЦЯГНЕНЬНЕ ПРЭМ'ЕРА ДА КРЫМІНАЛЬНАЙ АДКАЗНАСЬЦІ

*«ПАГОНЯ»*

Група дэпутатаў ад апазіцыі накіравала зварот на імя Старшыні ВС РБ М.Грыба й Генпракурора Беларусі В.Шаладонава з патрабаваньнем даць прававую ацэнку дакумэнтам, падпісаным прэм'ерам В.Кебічам 12 красавіка ў Маскве. На іх думку, спадар Кебіч парушыў чатыры артыкулы Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і павінен быць прыцягнуты да адказнасьці па артыкулу 61 Крымінальнага Кодэксу (дзяржаўная здрада). Лідар БНФ З.Пазьняк на прэс-канфэрэнцыі, што адбылася 15 красавіка, назваў унікальнай у навейшай гісторыі сытуацыю, калі ўрад сам здае сувэрэнітэт сваёй краіны шляхам парушэньня яе Асноўнага закона. На думку Пазьняка, далейшая дзейнасьць у гэтым напрамку прывядзе да пачатку нацыянальна-вызваленчай барацьбы за незалежнасьць Беларусі.

У гутарцы са Старшынёй камісіі ВС РБ па заканадаўству Д.Булахавым карэспандэнт СІМ Мас-мэдыя цэнтра папрасіў яго выказаць думку па гэтаму пытаньню. Адпаведнасьць падпісанага 12 красавіка пагадненьня Асноўнаму закону Булахаў ацаніў двума словамі:"Вельмі цяжка."

На думку экспэртаў СІМ у вобласьці юрыспрудэнцыі, Кебіч, бясспрэчна, парушыў Канстытуцыю ў частцы артыкула 145, якая рэгламэнтуе правы Нацбанка Беларусі. Гэта аўтаматычна пацягнула за сабой парушэньне артыкула 8 Асноўнага закона:"Не дазваляецца заключэньне міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі". Прэм'ер фактычна прызнаў сваю віну, публічна заявіўшы аб неабходнасьці зьмяненьня Канстытуцыі. Дэпутатам ад апазіцыі ён сказаў, што, падпісваючы пагадненьне, ня ведаў аб існаваньні артыкула 8 Асноўнага закона. Як стала вядома, Генпракурор рэспублікі В.Шаладонаў не знайшоў у дзеяньнях Кебіча складу злачынства й адмовіў ва ўзбуджэньні крымінальнай справы, што ні для каго не стала нечаканасьцю.

**СІМ**

# ПАЗЬНЯКА ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ МОЛАДЗЬ І ЛЮДЗІ ДА 40 ГАДОЎ

*«ПАГОНЯ»*

Кампанія па збору подпісаў аб вылучэньні кандыдатаў у прэзыдэнты Беларусі набліжаецца да экватара. Пра тое, як ідзе збор подпісаў у падтрымку З.Пазьняка, наш карэспандэнт пацікавіўся ў Старшыні Гарадзенскай абласной Рады БНФ "Адраджэньне" **М.БАЎСЮКА.**

**- Спадар Мікола, відаць, ужо можна гаварыць пра папярэднія вынікі?**

- Справы, дзякуй Богу, ідуць нядрэнна. У Горадні подпісы зьбірае 140 чалавек, па вобласьці - каля 700. Адсюль і вынікі: па стану на 4 траўня ў Горадні зарэгістравана ў выканкамах каля 4 тысяч подпісаў. А ўвогуле па Гарадзеншчыне - ня меней 16 тысячаў. Але асноўная колькасьць сабраных подпісаў яшчэ на руках у зборшчыкаў. Так што гэтыя лічбы намнога большыя.

**- Ці аналізаваліся пэўныя заканамернасьці? Скажам, які працэнт насельніцтва падтрымлівае Пазьняка, што гэта за людзі, раскладка па рэгіёнам...**

- Па вобласьці можна сьцьвярджаць, што ў нашага кандыдата найвышэйшы рэйтынг сярод прэтэндэнтаў - у сярэднім прыблізна 30 працэнтаў. У Горадні гэты паказчык трохі лепшы. У асноўным гэта моладзь і людзі да 40 гадоў. Сярод прыхільнікаў - людзі практычна ўсіх сацыяльных групаў, але большасьць з іх - гэта рабочыя, служачыя, студэнты...

Вельмі няблага йдуць справы ў Лідзе й Шчучыне, дзе зарэгістравана па 2 тысячы подпісаў. Больш за тысячу - у Слоніме, Ашмянах і Смаргоні. Каля тысячы - у Бераставіцы, Сьвіслачы, Карэлічах. Як бачыце, нейкія заканамернасьці тут заўважыць цяжка. Усё залежыць ад арганізаванасьці й адказнасьці тых, хто ўваходзіць у ініцыятыўную групу.

**- Дзякуй за размову й жадаю посьпехаў.**

- Дзякуй. Хачу нагадаць, што калі да каго з гарадзенцаў яшчэ не заходзілі сябры ініцыятыўнай групы, то вы можаце самі паставіць свой подпіс у падтрымку Пазьняка па адрасу: вул.Савецкая,10, пакой N1. Тут кожны дзень нехта дзяжурыць з ранку й да вечара. Не забудзьцеся толькі свой пашпарт.

*"ЗВЯЗДА"*

## НАДЗВЫЧАЙНАЯ СІТУАЦЫЯ

# НА ПАЛЕССІ -- ЧОРНАЕ НАШЭСЦЕ

**Вось дзе ўжо сапраўды адна бяда ніколі не ходзіць. Не паспелі жыхары паўднёвых рэгіёнаў Беларусі акрыяць ад паводкі, як звалілася новая напасць -- машкара.**

Ахвярамі гэтай чорнай навалы сталі ўжо дзесяткі кароў і коней з прыватных і калгасных гаспадарак Брэстчыны і Гомельшчыны. Сялян ахапіў страх. Папаўзлі чуткі, што небывалае дагэтуль нашэсце насякомых -- вынік чарнобыльскай трагедыі і ў хуткім часе ненажэрныя мошкі накінуцца на людзей. Словам, жах, што творыцца зараз на Палессі.

Высвятліць сітуацыю аглядальнік «Звязды» паспрабаваў у Галоўным упраўленні ветэрынарыі Мінсельгасхарчу рэспублікі. Там найперш растлумачылі, што чорнае нашэсце ні ў якім разе не звязана з чарнобыльскай аварыяй. Гэтыя мошкі былі на Беларусі і ў дачарнобыльскія часы. Аднак, па сцвярджэнню спецыялістаў, падобнай навалы не было даўно. Прычынай з'яўлення надзвычай агромністай колькасці мошак (у некаторых мясцінах яны пакрываюць зямлю слоем таўшчынёй у адзін сантыметр) стала паводка і раптоўнае пацяпленне, бо менавіта ў такіх умовах гэтыя насякомыя размнажаюцца вельмі хутка. Нападаючы на хатнюю жывёлу, пераважна на коней і кароў, гэтыя паразіты выклікаюць у апошніх хваробу «сімуліна таксікоз», прычым ёсць і смяротныя выпадкі. Па звестках «Звязды», ахвярамі машкарынага «войска», якое акупіравала Ганцавіцкі, Івацэвіцкі, Лунінецкі, Столінскі, Жыткавіцкі, Лельчыцкі і Ельскі раёны, сталі 11 коней і 137 кароў. Як запэўнілі мяне ў вышэйпамянёным упраўленні, зараз вядзецца барацьба з гэтай навалай, прымяняюцца нават дымавыя шашкі. Тым не менш, пагроза «сімуліна таксікоза» на Палессі застаецца. Па прагнозах спецыялістаў, яна міне дзесьці ў канцы мая. А пакуль сялянам, якія жывуць у «акупіраваных» раёнах, ветэрынары раяць як мага больш часу трымаць жывёлу ў хлявах, а пасвіць пажадана толькі ўдзень — прыкладна з 9 да 17 гадзін.

І апошняя парада спецыялістаў. Калі ваша рагуля ўсё ж занядужала (сімптомы хваробы відавочныя), ні ў якім разе не спрабуйце лячыць самастойна. Неадкладна паклічце ветэрынара.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# 200-я ЎГОДКІ ВЫЗВОЛЬНАГА ПАЎСТАННЯ 1794 г.

*"Звязда"*



Вызвольнае паўстанне 1794 г. ставіла мэту аднавіць незалежнасць Рэчы Паспалітай -- канфедэрацыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, вярнуць ёй землі, адабраныя Расіяй і Прусіяй у 1772 і 1793 гг. у выніку першага і другога падзелаў. Кіраўнікі паўстання, сыны беларускага народа Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка і Тамаш Ваўжэцкі спадзяваліся прадоўжыць эканамічныя рэформы і дэмакратызацыю дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай паводле Канстытуцыі 3 мая 1791 г.

Паўстанне на тэрыторыі Беларусі і Жамойціі, якое пачалося ў ноч на 23 красавіка 1794 г. пад кіраўніцтвам палкоўніка (пазней генерала) Якуба Ясінскага, было скіравана на ўсталяванне незалежнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў федэратыўнай лучнасці з Польшчаю. У вайсковых дзеяннях, якія ахапілі Віленшчыну, Гарадзеншчыну, Палессе, Меншчыну і доўжыліся на Беларусі паўгода, бралі ўдзел вайскоўцы, шляхта, сяляне, мяшчане, вернікі розных канфесій -- усяго каля 30 тысяч чалавек.

Паўстанне было задушана расійскімі рэгулярнымі войскамі, і найперш войскамі Суворава. Беларусь і Жамойція былі далучаны да Расіі. Беласточчыну і Занёманскі край Кацярына ІІ аддала Прусіі. Нашая Бацькаўшчына была разабрана, але застаўся жыць дух паўстанцаў, змагароў за Волю, Роўнасць, Незалежнасць, засталася памяць нашчадкаў.

Паўстанне 1794 г. зрабіла моцны ўплыў на далейшую нацыянальна-вызваленчую барацьбу беларускага народа.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ.**

# ЗЯРНЯТЫ, ЯКІЯ ПАСПЕЛІ ПАСЕЯЦЬ, КАЛОССЯМІ ЎЗРАСТУЦЬ

"Голас Радзімы"

22--23 красавіка ў сталічным Доме літаратара адбылася Першая сустрэча беларускай моладзі свету. Яе ініцыятарамі і арганізатарамі выступілі маладзёжныя арганізацыі -- Задзіночанне беларускіх студэнтаў, Аб'яднанне беларускіх скаўтаў, Саюз беларускай каталіцкай моладзі, маладзёжная філія БНФ, Беларускае аб'яднанне студэнтаў з Беласточчыны.

Адкрыў нараду старшыня Арганізацыйнага камітэта Яўген Ляпарскі, які падкрэсліў, што, на думку арганізатараў, ладзіць такія мерапрыемствы павінна быць прэрагатывай дзяржавы. Пакуль што беларуская моладзь сама аб'ядноўваецца і згуртоўваецца. Тым не менш, ён выказаў шчырую падзяку за падтрымку і дапамогу ўсім дзяржаўным установам, якія бралі ўдзел у наладжванні сустрэчы: Камітэту па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам адукацыі, замежных спраў, культуры і друку. (Таварыства "Радзіма", напрыклад, аплаціла транспартныя выдаткі дзесяці ўдзельнікаў з Польшчы). Большая ж частка фінансавых расходаў была пакрыта камерцыйнымі структурамі, сярод якіх, як заусёды, фірма "Дайнова", фінансава-інвестыцыйная кампанія "Fico" і іншыя.

Старшыня згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" спадарыня Ганна Сурмач у сваім прывітальным слове да ўдзельнікаў сустрэчы адзначыла, што менавіта прысутнасці маладога пакалення не хапала на Першым з'ездзе беларусаў свету і вельмі суцяшальна, што ў наш складаны час моладзь Беларусі і беларускага замежжа аб'ядноўваецца ў сваёй дзейнасці.

Да амаль што 200 дэлегатаў нарады, якія прадстаўлялі каля 20 маладзёжных арганізацый краін СНД, Балтыі і Польшчы, звярнуўся і лідэр апазіцыі народнага фронта ў Вярхоўным Савеце Зянон Пазьняк. Першае, што ён падкрэсліў, -- гэта тое, што час сёння вызначальны. Падзеі ў краіне вельмі ўскладніліся пасля падпісання 12 красавіка вышэйшымі кіруючымі коламі дзяржавы пагаднення з Расіяй з парушэннем аж шасці артыкулаў Канстытуцыі Беларусі. "Адзіная ідэя, якая можа зараз аб'яднаць усё грамадства цалкам -- гэта ідэя дзяржаўнай незалежнасці. Калі гэта дзяржава будзе страчана, ужо ніякія мары, ніякія планы, ніякія ідэі не змогуць быць здзейснены. Гэта трэба ўсвядоміць. Менавіта моладзь павінна вырашаць, у якой дзяржаве ёй жыць, якой быць нашай Бацькаўшчыне".

Далей праца праходзіла па парадку дня. Працавалі тры секцыі: культура і адукацыя, турызм і краязнаўства, маладзёжнае прадпрымальніцтва.

Напрыканцы сустрэчы дэлегаты прынялі наступныя дакументы: "Зварот да беларускай моладзі", "Заява аб палітычным становішчы ў Беларусі", "Пастанова аб Выканаўчым камітэце сустрэчы і яго задачах".

**Таіса БАНДАРЭНКА.**



**НА ЗДЫМКУ:** дэлегаты Першай сустрэчы беларускай моладзі свету.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## АДЗІН З ЦІКАВЫХ УРЫЎКАЎ НОВАЕ КАНСТЫТУЦЫІ БЕЛАРУСІ...

... **Артыкул 14**. Дзяржава рэгулюе адносіны паміж сацыяльнымі, нацыянальнымі і іншымі супольнасцямі на аснове прынцыпаў роўнасці перад законам, павагі іх правоў і інтарэсаў.

**Артыкул 15**. Дзяржава адказная за захаванне гісторыка-культурнай спадчыны, свабоднае развіццё культур усіх нацыянальных супольнасцей, якія пражываюць у Рэспубліцы Беларусь.

**Артыкул 16**. Усе рэлігіі і веравызнанні роўныя перад законам. Наданне якіх-небудзь пераваг або абмежаванняў адной рэлігіі або веравызнання ў адносінах да іншых не дапускаецца. Забараняецца дзейнасць канфесійных арганізацый, іх органаў і прадстаўнікоў, якая накіравана супраць суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, яе канстытуцыйнага ладу і грамадзянскай згоды ці звязана з парушэннем правоў і свабод грамадзян. Адносіны дзяржавы і канфесій рэгулююцца законам.

**Артыкул 17.** Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова. Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін.

**Артыкул 18**. Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы зыходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці межаў, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права. Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю без'ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай.

**Артыкул 19**. Сімваламі Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы з'яўляюцца яе Дзяржаўны сцяг, Дзяржаўны герб і Дзяржаўны гімн.

**Артыкул 20**. Сталіца Рэспублікі Беларусь —горад Мінск. Статус горада Мінска вызначаецца законам.

### Раздзел II. Асоба, грамадства, дзяржава

**Артыкул 21. Забеспячэнне правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь з'яўляецца найвышэйшай мэтай дзяржавы. Дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзян Беларусі, замацаваныя ў Канстытуцыі, законах і прадугледжаныя міжнароднымі абавязацельствамі дзяржавы.**

**Артыкул 22**. Усе роўныя перад законам і маюць права без усякай дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў...

# ІПАСТАСІ АРМІІ КРАЁВАЙ

**Сярод кола прафесійных інтарэсаў навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі АН Беларусі, кандыдата гістарычных навук *Віктара Іванавіча ЕРМАЛОВІЧА* ёсць тэма, што нейкі час заставалася для шырокай публікі малавядомай. Гэта даследаванне дзейнасці Арміі Краёвай — польскай баявой арганізацыі, вакол ролі якой падчас другой сусветнай вайны дагэтуль не заціхаюць спрэчкі. Чым яна была для Беларусі, яе народа: ворагам, саюзнікам, нейтральным фарміраваннем? Адназначнай ацэнкі, як высвятляецца, няма і сёння.**

**На нашу думку, аўтар прапануемага артыкула В. Ермаловіч, спрабуе аб'ектыўна, абапіраючыся на фактычны, дакументальны матэрыял, даць непрадузятую ацэнку Арміі Краёвай (АК), яе месцу ў сучаснай беларускай гісторыі.**

**Для зручнасці, лепшага паразумення чытачом матэрыял друкуецца ў выглядзе пытанняў і адказаў.**

***— Што ўяўляла сабой АК? Рэгулярнае фарміраванне, партызанскае, стыхійна згуртаванае злучэнне? Падпольная арганізацыя?***

**— Армія Краёва (у перакладзе армія краіны, айчыны) — падпольная ваенная арганізацыя, якая дзейнічала ў 1942-45 г. на акупаваных германскімі войскамі тэрыторыях Польшчы, Літвы, Заходняй Беларусі і Украіны. Яе стратэгічнай задачай была барацьба за адраджэнне польскай дзяржавы ў межах 1939 г. АК падначальвалася польскаму ўраду ў Лондане і налічвала ў сваіх шэрагах 250—300 тысяч чалавек.**

**У Заходняй Беларусі злучэнні АК былі размежаваны на чатыры акругі: Беластоцкую, Віленскую, Навагрудскую і Палескую, паводле розных звестак, 14—20 тысяч жаўнераў.**

***— У нашай гістарычнай, нават навуковай літаратуры аж да 1990 года лічылі за лепшае не згадваць АК, а калі і што-кольвечы з'яўлялася, дык больш у чорных фарбах. Ці не гэтак?***

**— Так. Амаль 40 гадоў змоўчвалася амаль усё, што тычылася фарміраванняў АК на беларускай зямлі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. На гэта былі свае прычыны. Перш за ўсё, такое становішча дыктавалася ідэалагічнымі ўстаноўкамі кіраўніцтва КПСС — КПБ, якое, мацуючы «братэрскія», «саюзніцкія» стасункі з Польскай Народнай Рэспублікай, адступалася ад гістарычнай праўды.**

**Адыграў сваю ролю і той факт, што ў спецсховішчы трапіла ў 50-х гадах першая буйная праца «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашысцкіх захопнікаў», аўтарам якой значыцца Л. Цанава. Фінал берыеўскага памагатага Лаўрэнція Цанавы вядомы. У няміласці апынулася і яго кніга. А на старонках яе дастаткова шырока, хаця і аднабакова, асвятляліся дзеянні АК ў Беларусі. Такім чынам, як тады вялося, і тэма Арміі Краёвай сталася непажаданай, закрытай. Нават энцыклапедыя «Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 г.» апусціла артыкул пра АК.**

**Праўда, трэба адзначыць з'яўленне ў 1991-94 г. шэрагу артыкулаў названай тэматыкі ў беларускім друку. Сярод аўтараў гэтых публікацый гісторыкі і журналісты У. Гуленка, С. Крапівін, А. Літвін, А. Хацкевіч. Як пазітыўны момант нагадаем артыкул А. Літвіна «Армія Краёва» у 1-м томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», які сёлета ўбачыў свет.**

***— З чаго пачыналася АК?***

**— Пасля краху ў верасні 1939 года тагачаснай польскай дзяржавы ў Лондане быў створан яе эміграицкі ўрад на чале з Уладзіславам Сікорскім. Ён і стаў ажыццяўляць кіраўніцтва дзеяннямі падпольных узброеных груп на тэрыторыі Польшчы, а таксама ў Заходняй Беларусі і Украіне. Урад Сікорскага, натуральна, не прызнаваў дагавор паміж Германіяй і СССР адносна Польшчы і падзелу яе тэрыторыі. Да пачатку ліпеня 1941 г. і польскі ўрад, і падначаленыя яму падпольныя ваенныя арганізацыі знаходзіліся ў стане вайны як з Германіяй, так і з Савецкім Саюзам. І аж да гэтага часу не канчаліся ўзброеныя акцыі супраць Чырвонай Арміі ў заходніх абласцях Беларусі і Украіны. Больш таго, яшчэ і ў ліпені 41-га прыхільнікі Сікорскага вялі вайну на знішчэнне супраць невялікіх груп чырвонаармейцаў і партызанаў.**

**Іншы раз, калі справа датычылася барацьбы з нашымі войскамі, польскія банды не грэбавалі нават падтрымкай гітлераўцаў. У дакладной вядомага партызанскага камандзіра В. З. Каржа на імя П. К. Панамарэнкі адзначалася, што Чырвоная Армія адышла з Заходняй Беларусі, у некаторых раёнах пачалі ствараюца польскія бандыцкія групы, своечасова не абясшкоджаныя. Яны дзейнічалі з немцамі супраць нашых актывістаў, байцоў і камандзіраў, якія выходзілі з акружэння, ішлі на ўсход. І далей Васіль Корж выкладае свой план далейшых дзеянняў, скіраваных на нейтралізацыю бандытаў.**

**У 1942 г. працэс кансалідацыі польскіх нацыяналістычных сіл, у тым ліку ў Заходняй Беларусі, скончыўся. Яны сталі падпарадкоўвацца аднаму кіраўніцтву, сфарміравалася структура арганізацыі, якая атрымала ўсім знаёмую потым назву: Армія Краёва.**

***— У якіх стасунках знаходзілася АК з партызанамі?***

**— Тут трэба адрозніваць два перыяды. Першы: 1942 — восень 1943 г. Тады ў значнай меры на дзеянні фарміраванняў АК у Беларусі пазітыўна ўплывалі пагадненне аб усталяванні дыпламатычных адносін паміж СССР і Польшчай і пагадненне аб ваенным супрацоўніцтве паміж узброенымі фарміраваннямі абодвух бакоў. Пад той час акаўцы правялі супраць нямецкіх захопнікаў шэраг аперацый, разбілі фашысцкія гарнізоны ў Івянцы, Радуні, Юрацішках, Беняконях і г. д. Атрады АК у Навагрудскай акрузе з 1942 па 1944 г. больш як у ста баях нанеслі немалы ўрон гітлераўцам. Аднак тыя ж легіянеры з восені 1943 па ліпень 1944 года 81 раз завязвалі баі з партызанамі. Гэтак надышоў другі этап — этап канфрантацыі з беларускімі партызанамі. Прычым дзень пры дні варажнеча нарастала. І гэта было характэрна не толькі для адной акругі — для ўсіх. Зрэшты, другі этап — перыяд не толькі ўзброеных сутычак, а і перыяд, характэрны фактамі супрацоўніцтва АК з акупацыйнымі ўладамі ў барацьбе супраць савецкіх партызанаў. І не прызнаць таго супрацоўніцтва не могуць і польскія гісторыкі, у прыватнасці, Е. Туронак.**

**У апошні час у беларускім і польскім друку з'явіліся публікацыі, у тым ліку і кніга Е. Туронка, дзе выказваюцца меркаванні, што новае супрацьстаянне «АК — беларускія партызаны» — гэта рэакцыя на разрыў савецкім урадам сваіх адносін з польскім у Лондане і рэалізацыя партызанамі загаду П. К. Панамарэнкі аб раззбраенні АК. Не зважаць на гэтыя довады, вядома, нельга, але нельга не адзначыць, што не яны сталі першапрычынай супрацьборства, якое абвастрылася раней згаданых падзей, асабліва пасля візітаў эмісараў польскага эміграицкага ўрада.**

**Думаецца, канфрантацыя была абумоўлена ходам вайны і амбіцыямі польскіх правячых колаў. Гэта пацвярджаецца ўсёй далейшай іх палітыкай, іх планамі на вызваленай зямлі Заходняй Беларусі і Украіны стварыць умовы для «адраджэння» Польшчы ў старых межах.**

***— Ці праўда, што АК у дачыненні да беларусаў праводзіла тактыку тэрору?***

**— У дачыненні да ўсіх сацыяльных слаёў і палітычных плыняў у беларускім асяроддзі, якія не падтрымлівалі ідэю адраджэння польскай дзяржавы ў межах 1939 г., акаўцы прымянялі палітыку «супакаення» з дапамогай агню і мяча. Так, яны спалілі вёску Лукашы былога Заслаўскага раёна разам з яе жыхарамі, вёскі Турэйск і Забор'е Жалудоцкага раёна. Легіянерамі Стаўбцоўскага злучэння АК, паводле мемуараў аднаго з прыкметных ваенных функцыянераў А. Пільха, за якіясь паўгода было забіта 6 тысяч «бальшавікоў». Падобнымі падрабязнасцямі стракацеў бы летапіс АК, будзь ён напісаны.**

**Набожныя каталікі-легіянеры, якія пастаянна наведвалі касцёл, тым не менш не спыняліся перад забойствам беларускіх святароў, праўда, праваслаўных. Па-зверску, здзекліва, на вачах дачкі і пляменніцы быў забіты протаіерэй Міхаіл Леванчук, вядомы дзеяч беларускай нацыянальнай асветы. Хтосьці з катаў сарваў з яго шыі крыж. Потым легіянеры застрэлілі дачку і пляменніцу святара. Колькасць знішчаных акаўцамі святароў і членаў іх сем'яў дасягае колькіх дзесяткаў.**

**У шэрагу выпадкаў акаўскае кіраўніцтва разыгрывала антыбеларускую карту рукамі германскіх акупантаў. Пра гэта гаворыць у сваёй кнізе К. Акула, сведчаць дакументы польскага падпольнага цэнтра Палескай акругі ад 14.05.43 г. за подпісам Ф. Дубінскага, перахопленыя партызанамі. У іх было сказана, што «...палякі мусяць любымі спосабамі кампраментаваць беларусаў перад немцамі, дабіваючыся іх арышту, каб страты іх былі больш, чым у палякаў». На адным са сходаў мясцовай падпольнай арганізацыі «Грэнадзёры» у Іўеўскім раёне была прынята пастанова, адзін з пунктаў якой абвяшчаў: «Праз сваіх людзей прасіць паліцыю і немцаў паліць беларускія вёскі на той падставе, што яны дапамагаюць партызанам».**

***— Што можна сказаць пра далейшы лёс акаўцаў?***

**— Радавы склад гэтых фарміраванняў, раззброеных беларускімі партызанамі, меў выбар: пайсці дадому або ў партызаны. Афіцэры, у большасці злосныя ворагі СССР, былі знішчаны, астатнія інтэрніраваны, у прыватнасці, паручнік Каспер Мілашэўскі, камандзір аднаго з буйных фарміраванняў АК, а пасля вайны яны вярнуліся на радзіму— Мілашэўскі прадоўжыў службу ў Войску Польскім, стаў палкоўнікам. Пры вызваленні ж Беларусі ад фашыстаў атрады АК былі раззброены. Жаўнерам і афіцэрам давалі магчымасць працягваць службу ў Войску Польскім. Частка іх прыняла ўдзел у вызваленні Польшчы ад гітлераўскіх захопнікаў. Тых, хто «наваяваўся», інтэрніравалі, некаторыя былі асуджаны за злачынствы, зробленыя падчас знаходжання ў АК. Нейкая частка акаўцаў скрылася ў падполле, вяла барацьбу з народнай уладай у ПНР, з савецкай уладай у Заходняй Беларусі.**

"Навіны АНБ"

# ЛЕТА: ЧАС ВЫБІРАЦЬ ПРЭЗІДЭНТА

*"ЛіМ"*

У аўторак, увечары, з тэлевізійнага экрана быў зачытаны зварот Старшыні Савета Міністраў РБ сп. Кебіча да беларускага народа з нагоды пачатку... *паказу па Беларускім тэлебачанні* шматсерыйнага фільма «Семнаццаць імгненняў вясны». Прэм'ер-міністр пажадаў ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, партызанам і падпольшчыкам прыемнай сустрэчы са штандартэн-фюрэрам СС Максам Ота фон Шцірліцам, чый вобраз (артыст В.Ціханаў) увасабляе непарушнае братняе адзінства расійскага і беларускага народа і натхняў сп. Кебіча *на падпісанне Дагавора аб аб'яднанні* грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Сёй-той называе дагавор злачынствам супраць Беларускай дзяржавы, але сп. Кебіч мяркуе інакш: падпісанне дагавора — сведчанне таго, што ўрад на чале з прэм'ерам нарэшце стаў на шлях ацверазення, і хоць дарога не роўная, і ногі не ідуць — рухаецца наперад. Вось такі прыкладна змест звароту.

*Спачатку мне падалося,* што гэта «Пяць хвілін на жарты». Але, на жаль, гэта вельмі сур'ёзна і таму — страшна. Калі прэм'ер-міністр трымае ў сваім апараце людзей, якія пішуць яму такія тэксты, дык гэта ставіць пад сумненне і ягоны інтэлект. А ён жа, між іншым, яшчэ і прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта.

Увогуле тэма рублёвай зоны дамінуе ва ўсіх публічных прамовах сп. Кебіча. Ці то ён прыйдзе на сход міліцыянтаў, ці на сустрэчы з медыкамі, ці запросіць у свае апартаменты прадстаўнікоў маладзёжных арганізацый, — усюды будзе гучаць адно і тое ж: «Без Расіі нам не выжыць. Аб'яднанне грашовых сістэм — адзіны ратунак». Кажуць, шмат песень у мядзведзя і ўсе яны пра мёд. Дадам, шмат казак у прэм'ера, а любімая — пра рубель.

Пра тое ж самае гаварыў Вячаслаў Францавіч і на Гомельшчыне, куды ён ездзіў па галасы выбаршчыкаў. А была тая вандроўка якраз пад чарговую гадавіну чарнобыльскай катастрофы. Калі ўсім прэм'ер-міністр абяцае шчаслівае жыццё пад расійскім рублём, дык для медыкаў Гомельшчыны зрабіў выключэнне: іх ён збіраецца ашчаслівіць амерыканскім доларам. Трэцюю частку таго, што дасць (магчыма) Беларусі Міжнародны валютны фонд, — 40 мільёнаў доларАў са 120 — урад плануе перадаць на патрэбы аховы здароўя ў нашай краіне.

Расійскі рубель, амерыканскі *долар, льготны крэдыт, гуманітарная* дапамога — усё гэта не можа вырашыць нашы праблемы, вывесці краіну з эканамічнага крызісу. Мне асабіста хацелася б бачыць на пасадзе прэм'ера і на пасадзе прэзідэнта не таго, хто спадзяецца на «добрага дзядзьку» з рублём альбо доларам у кішэні, чый галоўны клопат — размеркаванне паміж нашымі жабракамі замежных падарункаў, а чалавека, *які мае ўласны розум і ўласны гонар.* Палітыка, які гатовы выслухаць апанента і даць канкрэтны адказ на канкрэтнае пытанне, нават калі пытанне вельмі непрыемнае.

Нельга галасаваць за таго, хто хавае вочы, калі ў яго пытаюцца «дзе абяцанае?», і няўцямна мармыча, што ён нічога такога не абяцаў, што яго не так зразумелі.

Нагадаю, што ў сваім артыкуле «Видеть истину. К договору об объединении денежных систем Беларуси и России» сп. Кебіч старанна абыходзіць вострыя вуглы, ніяк не рэагуе на сур'ёзныя прэтэнзіі да яго як да палітыка і эканаміста. Відаць, чым бліжэй да выбараў, тым часцей мы будзем бачыць па тэлевізары Івана Антановіча, якога лічаць за дырыжора Кебічавай каманды. Іван Іванавіч зрабіў сабе кар'еру на выкрыцці хібаў буржуазнага ладу і яго няправільнай ідэалогіі. Ён увогуле адзін з нямногіх людзей у асяродку прэм'ера, хто ўмее складна гаварыць на якую заўгодна тэму і, калі трэба, «лагічна» абгрунтаваць які заўгодна абсурд. Але і яго часам заносіць. Так, выступаючы нядаўна па тэлебачанні са сваімі меркаваннямі адносна шанцаў на поспех асноўных кандыдатаў у прэзідэнты (на ягоную думку, гэта Кебіч, Лукашэнка, Шушкевіч, Пазняк — менавіта ў такой паслядоўнасці), сп. Антановіч прыпісаў лідэру БНФ словы: «*Мы должны ненавидеть русских*». Антановіч чалавек дасведчаны і цудоўна ведае, што нічога падобнага лідэр БНФ не гаварыў, не пісаў, не выказваў нават у форме намёку. І тым не менш дазваляе сабе гаварыць такое на палітычнага апанента на вачах многіх тысяч тэлегледачоў.

Ну, а сам спадар Кебіч? У памянёным артыкуле ён абвінавачвае дэмакратычную апазіцыю ў Вярхоўным Савеце і сілы, якія стаяць за ёю ў грамадстве, у прад'яўленні тэрытарыяльных прэтэнзій да ўсіх без выключэння суседніх з намі краін. Калі б мы жылі ў прававой дзяржаве, прэм'ер бы больш узважваў свае словы. Але мы жывём у РБ, а гэтую абрэвіятуру часам расшыфроўваюць як «Рэспубліка бальшавікоў».

Здаецца, прэм'ер-міністр не надта баіцца сваіх інтэлігентных канкурэнтаў — З.Пазняка і С.Шушкевіча. Бо, як выхаванец сваёй партыі, ён арыентуецца ў сваёй палітыцы на люмпен. Дастаткова прыгадаць, што гаварыў пра інтэлігенцыю Ленін, каб зразумець, што думае пра яе спадар «*рэальны прэтэндэнт*». *А каго баіцца* Кебіч, дык гэта Лукашэнкі. Бо яны ці не падобныя. У прыгаданым тэлекаментарыі Антановіч гаварыў пра Аляксандра Рыгоравіча з насцярожанай павагай і нават выказаў меркаванне, што пры прэзідэнце Кебічу Лукашэнка можа быць віцэ-прэм'ерам, а то і прэм'ер-міністрам. Толькі ці дарує сп. Кебіч Аляксандру Рыгоравічу свае нервовыя стрэсы, бо *ніяк не чакаў ён, што гэты вясковец* будзе ягоным канкурэнтам на выбарах, што будзе парушаць «субардынацыю». Але сёння з тактычных меркаванняў можна абяцаць усё і ўсім.

Пасля першага паказу па тэлебачанні тэлесерыяла «Семнаццаць імгненняў вясны» замацавалася ў гутарковай мове словазлучэнне «інфармацыя для роздуму». Шмат інфармацыі для роздуму дае дзейнасць «*самага рэальнага прэтэндэнта*» на пасаду прэзідэнта. Інфармацыю для роздуму не толькі гісторыкам, сацыёлагам, псіхолагам, але і нам, людзям простым, паспалітым. Не варта быць нам абыякавымі. Хутка лета. А калі зіма, згодна рэкламы, «время пить Херши», дык лета — час выбіраць Прэзідэнта.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

## АДЗІН ПАСОЛ НА ТРЫ КРАІНЫ

Не выключана, што першы намеснік старшыні Дзяржкамітэта па знешніх эканамічных сувязях Міхаіл Марыніч хутка пакіне сваю пасаду. Як стала вядома карэспандэнту БелаПАН, Савет Міністраў унёс у Прэзідыум Вярхоўнага Савета прапанову аб прызначэнні М. Марыніча Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Беларусі ў Чэшскай Рэспубліцы, а таксама па сумяшчальніцтву -- Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом у Славацкай і Венгерскай Рэспубліках.

# ДЭМАКРАТЫ МАЮЦЬ НЕБЛАГІЯ ШАНЦЫ, АСАБЛІВА Ў БУЙНЫХ ГАРАДАХ,

## АЛЕ ВАЖНА, КАБ НАСЕЛЬНІЦТВА АКТЫЎНА ПАЙШЛО НА ВЫБАРЫ

**Гэта, у прыватнасці, падкрэслілі днямі на чарговай прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры члены Ініцыятыўнай групы па вылучэнню кандыдатам у прэзідэнты Станіслава Шушкевіча.**

Кіраўнік Ініцыятыўнай групы Алег Трусаў, іншыя ўдзельнікі прэс-канферэнцыі зазначылі, што збор подпісаў за Станіслава Шушкевіча ідзе планамерна, мэтанакіравана, і ёсць усе падставы спадзявацца на дасягненне патрэбнай выніковай лічбы. За Шушкевіча падпісваецца шмат прадстаўнікоў моладзі, інтэлігенцыі, жанчын, ветэранаў. Ставяць подпісы і вайскоўцы, але, так бы мовіць, з аглядкай. На прэс-канферэнцыі прыводзіліся прыклады таго, як службовыя асобы, ангажыраваныя так званай партыяй улады, спрабуюць чыніць дэмакратам усялякія перашкоды.

І ўсё ж дэмакраты спадзяюцца на поспех. Удалося наладзіць эфектыўнае ўзаемадзеянне паміж ініцыятыўнымі групамі прэтэндэнтаў-дэмакратаў, адзначыў на прэс-канферэнцыі Генадзь Шчарбінін. Будуць зроблены захады, каб за выбарамі сачылі як мага больш незалежных назіральнікаў, у тым ліку міжнародных, што дазволіць звесці да мінімуму магчымасць падтасовак, нацiску на выбаршчыкаў. Многае будзе залежаць і ад саміх выбаршчыкаў. Дэмакраты маюць шанц набраць шмат галасоў, асабліва ў буйных гарадах, але важна, каб людзі праявілі на выбарах належную актыўнасць, грамадзянскую адказнасць. Бо сёння, як адзначалася на прэс-канферэнцыі, фактычна пастаўлены на карту лёс нашай незалежнасці.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, «ДВ».**

## БЕЛАРУСЬ -- РАДЫЯЦЫЯ: СХВАТКА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

20 красавіка ў Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь кіраўніцтва Дзяржаўнага камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС правяло прэс-канферэнцыю па пытаннях выканання рэспублікай Дзяржаўнай праграмы, прынятай 4 гады таму і рэгламентуючай дзеянні ўрада па пераадоленню наступстваў аварыі на ЧАЭС. Як паведаміў намеснік Старшыні Савета Міністраў, старшыня Дзяржкамчарнобыля рэспублікі Іван Кенік, з асноўных палажэнняў праграмы выканана, бадай, самае важнае -- ажыццёўлена адсяленне людзей з зоны з узроўнямі заражанасці тэрыторый 40 і больш кюры на квадратны кіламетр і 15—40 кюры на квадратны кіламетр. На сённяшні дзень у гэтых раёнах засталіся толькі тыя, хто па ўласнай ініцыятыве не пакінуў «радыеактыўныя землі». Жаданне ўрада ажыццявіць высяленне ў прымусовым парадку не атрымала падтрымкі ў Міністэрстве юстыцыі, якое ўбачыла ў гэтым парушэнне правоў чалавека. Для ўсіх перасяленцаў на працягу даволі кароткага тэрміну было пабудавана жыллё, у тым ліку толькі ў Мінску -- 5 500 кватэр. Аднак, калі жыллёвай праблемы ў прынцыпе ўжо не існуе, то пытанні газіфікацыі пасёлкаў перасяленцаў і стварэнне ў іх аб'ектаў сацкультбыту да гэтага часу вырашаюцца слаба. Вялікую дапамогу ў гэтым напрамку Беларусі аказваюць ААН і розныя міжнародныя арганізацыі і фонды. Каля 40 працэнтаў усяго дыягнастычнага абсталявання рэспублікай атрымана па лініі гуманітарнай дапамогі. Пэўнае садзейнічанне аказвае Расія -- у 1992 годзе на яго было пералічана ў Беларусь 6,5 мільярда рублёў. Паступленне 8,5 мільярда за мінулы год чакаецца. Што тычыцца Украіны, то на сённяшні дзень яна практычна ўхілілася ад сумеснай працы па пераадоленню наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

На прэс-канферэнцыі была таксама закранута праблема павелічэння ўзроўню захворваемасці спецыфічнымі хваробамі ў паслячарнобыльскі перыяд. Журналістам паведамілі, што з 1986 па 1994 год у рэспубліцы зарэгістраваны 253 выпадкі рака шчытападобнай залозы. У параўнанні з *такім жа перыядам* да аварыі на ЧАЭС гэтая лічба ўзрасла больш чым у 25 разоў.

Гаворачы аб перспектывах выкарыстання ў далейшым забруджаных тэрыторый, І.Кенік адзначыў, што, магчыма, там будзе створаны запаведнік -- база для шырокіх навуковых даследаванняў. Па прагнозах спецыялістаў, да пачатку новага стагоддзя больш за чвэрць «радыеактыўнай зямлі» ужо «вернецца ў строй» і стане прыгоднай для пражывання.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ,**

*"ЗВЯЗДА"* **БелаПАН.**

## БЕДНАЯ ТАЯ ДЗЯРЖАВА, У ЯКОЙ НЯМА ГРОШАЙ НА СВАЮ БУДУЧЫНЮ

Учора ў сталічным Доме літаратара пачала сваю работу Першая сустрэча беларускай моладзі свету. Яе ініцыятарамі і арганізатарамі выступілі некалькі беларускіх маладзёжных арганізацый — Задзіночанне беларускіх студэнтаў, Аб'яднанне беларускіх скаўтаў, Саюз беларускай каталіцкай моладзі, Беларускае аб'яднанне студэнтаў з Беласточчыны, Маладзёжная філія БНФ. У Мінск прыехалі прадстаўнікі *каля 20 маладзёжных беларускіх* суполак з краін СНД, Балтыі і Польшчы, усяго ж — разам з моладдзю нашай краіны — у сустрэчы прымаюць удзел каля 200 дэлегатаў.

Як жа паспрыялі дзяржаўныя структуры гэтай, безумоўна, неардынарнай падзеі, якая адбываецца ўпершыню ў гісторыі нашай краіны? Дачыненне іх, скажам мякка, гранічна сціплае. Для нармальнага правядзення ўсёй запланаванай праграмы сустрэчы яе арганізатарам трэба было знайсці каля 20 мільёнаў рублёў. Але ўдзел дзяржаўных структур быў акрэслены толькі двума мільёнамі ад Камітэта па справах моладзі і дапамогай Міністэрства адукацыі ў выглядзе бясплатнага размяшчэння ўдзельнікаў сустрэчы ў інтэрнаце Беларускай політэхнічнай акадэміі. Як паведаміў у інтэрв'ю старшыня Камітэта па справах моладзі Міхаіл Падгайны, Згуртаванне беларускіх студэнтаў *само вінаватае* ў тым, што звярнулася з просьбай аб дапамозе несвоечасова. «Па-другое, гэта мерапрыемства не было ўнесена ў праграму «Беларусы свету», пад якую запланаваны выдаткі», -- сказаў Падгайны.

*У сваю чаргу старшыня* ЗБС Аляксей Брушко расказаў мне аб тых намаганнях, якія зрабілі арганізатары ў пошуку патрэбных грошай. Яны, напрыклад, накіравалі ліст у Міністэрства фінансаў, але нават не змаглі атрымаць адтуль афіцыйнага адказу, бо супрацоўніца міністэрства Наталля Собалева, зачытаўшы яго па тэлефоне, адмовілася выдаць на рукі. З аднолькавым, нулявым, поспехам закончыліся прамыя звароты да кіраўнікоў дзяржавы на іх сустрэчах з лідэрамі маладзёжных арганізацый.

Таму, мяркую, ёсць усе падставы сцвярджаць, што дзяржава фактычна праігнаравала Першую сустрэчу беларускай моладзі свету. Няцяжка падлічыць, што два мільёны безнаяўных рублёў -- гэта трохі больш за сто долараў, на якія можна купіць хіба што скураную куртку. Магчыма, чыноўнікі (*вялікія і малыя*) *баяліся, што сус*трэча набудзе непажаданае для іх палітычнае гучанне, але папярэдне такіх планаў у яе арганізатараў не было. Дастаткова сказаць, што ў рабочым плане сустрэчы былі толькі тры секцыі: культура і адукацыя, турызм і краязнаўства, маладзёжнае прадпрымальніцтва. Але, відаць, чыноўнікі аказаліся празарліўцамі -- *па прапанове адной з удзельніц* у парадак дня ўключана і палітычнае пытанне.

*"Звязда"* **Віталь ЦЫГАНКОЎ.**

***Беларускае Замежжа багатае грашыма, але беднае духова...***



# КОКА-КОЛУ РОБІМ САМІ

Шмат заморскіх страў ды напіткаў можа сёння пакаштаваць наш чалавек. Дзеля гэтага неабавязкова ехаць за мяжу. Але смела можна сказаць, што ўсе прадукты замежных марак Беларусь імпартуе. І вось навіна. Фірма «Кока-кола Амаціл» наладзіла вытворчасць свайго знакамітага напітку ў Мінску. Сваім абсталяваннем і тэхналогіямі на плошчах Мінскага завода безалкагольных напіткаў.




Акрамя таго, што такі шлях выхаду на наш рынак інвесціруе беларускую эканоміку, ён яшчэ дапамагае змагацца з беспрацоўем. Менавіта рукамі нашых грамадзян будзе рабіцца ў Мінску *КОКА-КОЛА.*

Сёння аматары гэтага асвяжальнага напітку ласкава называюць яго *КОУКАМ.* Гэта скарочаная і ёмкая назва замацавана за *КОКА-КОЛАЮ* як, дарэчы, і спецыфічная фірменная бутэлька, якая вельмі нагадвае статную дзявочую постаць, такую ж *ПРЫВАБНУЮ*, як сама *КОКА-КОЛА*. Менавіта ў такім выглядзе прыходзіць да нас *КОКА-КОЛА* – напой, у які даўно закаханы свет.

## 100 ТЫСЯЧ ПОДПІСАЎ ЗБЯРУЦЬ НЕ ЎСЕ

Лічаныя дні засталіся да завяршэння першага этапа перадвыбарнай кампаніі -- збору подпісаў грамадзян за вылучэнне кандыдатур на пасаду першага ў гісторыі Прэзідэнта Беларусі. Вядома, што 19 ініцыятыўных груп, зарэгістраваных Цэнтральнай камісіяй па выбарах Прэзідэнта, удзельнічаюць цяпер у гэтым няпростым марафоне. Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, далёка не ўсе *прэтэндэнты на галоўную пасаду ў дзяржаве* адолеюць да 15 мая «планку» ў сто тысяч сабраных подпісаў грамадзян рэспублікі.

Так, па стану на 11 мая запаветны рубеж пакуль пераадолелі толькі энтузіясты, *якія збіраюць подпісы* на карысць прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча і лідэра беларускіх камуністаў Васіля Новікава. За вылучэнне першага прэтэндэнта свае подпісы паставілі больш за 160 тысяч выбаршчыкаў, за другога -- 115 тысяч грамадзян. Да іх набліжаецца па колькасці сімпатызуючых ініцыятыўная група ў падтрымку Станіслава Шушкевіча. Ужо сабрана 90 тысяч подпісаў. Каля 70 тысяч галасоў патэнцыяльных выбаршчыкаў мае і прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў рэспублікі Уладзімір Карагін.

Старшыня Беларускай сялянскай партыі Яўген Лугін паведаміў, што ў падтрымку яго кандыдатуры набралася 49 тысяч подпісаў і наўрад ці за астатнія дні карціна істотна зменіцца.

Звестак аб колькасці сабраных подпісаў ад іншых ініцыятыўных груп Белінфарм не мае па прычынах, якія ад агенцтва не залежаць. Напрыклад, у штабе па збору подпісаў за Зянона Пазняка лічаць, што пакуль не настаў час абнародаваць даныя. Іншыя ініцыятыўныя групы проста не выходзяць на сувязь, нават з Цэнтральнай камісіяй па выбарах Прэзідэнта.

*"Звязда"*

# БУДЗЕМ БЕЗ РАСІЙСКІХ РУБЛЁЎ, АЛЕ З КАНСТЫТУЦЫЙНЫМ СУДОМ?

ЗВЯЗДА

- **Старшыня Нацбанка лічыць, што аб'яднання грашовых сістэм не будзе**
- **Вярхоўны Савет не разглядаў пытанне аб ратыфікацыі грашовага пагаднення**
- **Абраны 9 членаў Канстытуцыйнага суда**
- **Канстытуцыйны суд часова ўзначаліў актыўны дзеяч камуністычнага руху Валерый Ціхіня**
- **Наступная сесія Вярхоўнага Савета збярэцца толькі пасля прэзідэнцкіх выбараў**




Нечарговая 14-я сесія Вярхоўнага Савета, што скончылася пазаўчора, не прынесла, на маю думку, абнадзейлівых вынікаў адносна ўваходжання Беларусі ў расійскую грашовую сістэму. Парламент нават не разглядаў пытання аб ратыфікацыі Дагавора аб аб'яднанні беларускай грашовай сістэмы з расійскай ад 12 красавіка. І хаця сама ідэя аб'яднання была раней адобрана ВС, без ратыфікацыі гэты дагавор наўрад ці ўступіць у дзеянне. Былі разгледжаны толькі змяненні ў мытным і падатковым заканадаўстве, якія вынікаюць з тых 9 артыкулаў пагаднення, што ўступілі ў дзеянне адразу пасля яго падпісання. Узамен адмены пошлін, у тым ліку 40-доларавай экспартнай пошліны на нафту Расія запатрабавала ад Беларусі не толькі бясплатна ўтрымліваць свае вайсковыя часці на нашай тэрыторыі, але і поўнасцю прывесці беларускае мытнае заканадаўства ў адпаведнасць з расійскім. Для гэтага ўрад унёс прапанову прызнаць страціўшым сілу Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на экспарт і імпарт» і прыняць пастанову аб часовым экспартным тарыфе на перыяд да 1 студзеня 1996 года.

Практычна ўсе дэпутаты, што выступілі ў спрэчках, рэзка крытыкавалі гэтае рашэнне. Дэпутат Віктар Ганчар звярнуў увагу на ганебнасць такога становішча, калі беларускія дэпутаты будуць вымушаны цяпер кожны раз збірацца і «як папугаі» ўносіць змяненні ў мытнае заканадаўства, каб прывесці яго ў адпаведнасць з расійскім. Экс-спікер Станіслаў Шушкевіч заявіў, што пасля такога рашэння Беларусь фактычна ператвараецца не тое што ў суб'екта Расійскай Федэрацыі, а нават у яе калонію, бо важнейшае пытанне дзяржаўнай палітыкі — экспартна-імпартнае рэгуляванне -- будзе вырашацца расійскай Думай, у якой Беларусь не мае прадстаўніцтва і свайго голасу. На гэтую ж тэму выказаўся дэпутат Віталь Малашка. Ён запытаўся, ці можна прывесці хоць адзін прыклад, калі б Расія ўвяла экспартную ці імпартную пошліну на цяпер ужо агульнай мытнай прасторы спецыяльна ў інтарэсах Беларусі. «Чаму б Расіі, -- запытаўся В. Малашка, — не ўвесці пошліну на імпарт буйных самазвалаў, каб сібірскія кар'еры куплялі не японскія «Міцубісі», а нашыя «БелАЗы»?»

Нягледзячы на бурныя дэбаты і чарговы скандал з націсканнем чужых кнопак для галасавання, беларускае мытнае заканадаўства было прыведзена ў поўную адпаведнасць з расійскім. Дарэчы, бясконцыя скандалы з галасаваннем «за сябе і за таго хлопца» наводзяць на думку, што для народных абраннікаў здзейсніць падлог -- звычайная справа.

Які ж далейшы лёс Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм, і ў прыватнасці яго 5-га артыкула? Як заявіў у эксклюзіўным інтэрв'ю «Звяздзе» старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч, група юрыстаў з апарату Вярхоўнага Савета напісала заключэнне, што гэты артыкул дагавора не пярэчыць Канстытуцыі. С. Багданкевіч назваў гэтае заключэнне «юрыдычным вар'яцтвам». Гаворачы аб перспектыве аб'яднання, старшыня НББ заявіў, што, на яго думку, аб'яднання грашовых сістэм не будзе ні да прэзідэнцкіх выбараў, ні пасля іх.

Іншую думку ў інтэрв'ю «Звяздзе» выказаў першы віцэ-прэм'ер Міхаіл Мясніковіч. Па яго словах, зараз рыхтуецца двухбаковае міжбанкаўскае пагадненне, якое здыме тыя фармулёўкі 5-га артыкула, якія супярэчаць Канстытуцыі.

Дарэчы, у апошняй нарэшце з'явіўся, будзем спадзявацца, надзейны абаронца. Вярхоўны Савет абраў і прывёў да прысягі 9 членаў Канстытуцыйнага суда. Паколькі кандыдатуру на пасаду старшыні Канстытуцыйнага суда парламенту павінен прапанаваць прэзідэнт, то да выбараў апошняга гэтая пасада засталася вакантнай. Пакуль выконваць абавязкі старшыні будзе старэйшы па ўзросту суддзя, а ім аказаўся Валерый Ціхіня. Ён даволі вядомы дзеяч камуністычнага руху, таму я запытаўся ў яго, як ён далей мае намер дзейнічаць. В. Ціхіня заявіў, што з моманту абрання членам суда ў адпаведнасці з законам ён спыняе сваё членства ў Партыі камуністаў Беларусі і ўвогуле адыходзіць ад палітычнай дзейнасці.

**Ігар СІНЯКЕВІЧ.**

# ЖЫВЕ Ў ЛУНІНЦЫ ВЕСЯЛУН

У яго і прозвішча адпаведнае — Весялоўскі, вядомае, бадай, не толькі што кожнаму лунінчаніну, а і жыхарам многіх палескіх вёсак, дзе ён хоць бы раз пабываў на вяселлі або якім-небудзь іншым свяце. Алесь Уладзіміравіч дасканала валодае больш чым дзесяткам музычных інструментаў: гармонікам, баянам, акардэонам, скрыпкай, балалайкай, флейтай, бубнам... А яшчэ ён грае на ... кавалачку звычайнай фотаплёнкі: зацісне пласціначчку ў губах, і вось ужо падыгрывае спеўнаму баяну мінорны «саксафон», гучаннем вельмі-вельмі блізкі да сапраўднага. Падыходзяць іншыя музыкі, спрабуюць паўтарыць тое самае — не атрымліваецца ў іх, прынамсі, дасюль яшчэ ні ў кога не атрымалася.

Асабліва віртуозна грае Весялоўскі на баяне, любімым сваім інструменце. На слых падбірае любую мелодыю, зноў жа — здатны і «штуку» выкінуць: закладзе баян за спіну і працягвае граць у такім стан не горш, чым у звычайным, куды больш зручным.

У хоры «Палессе», які створаны пры лунінецкім ПТВ-146 і якім кіруе кампазітар-педагог Мікола Вайцяхоўскі, у Алеся Уладзіміравіча даволі сціплая роля — акампаніятара. Аднак мала які канцэрт праходзіць без яго сольных нумароў. Сябры не без захаплення згадваюць, як на адных з гастроляў забаўляў ён нямецкую публіку — хутка і дасканала падбіраў на баяне тамтэйшыя мелодыі, раней ніколі не чутыя ім.

Унікальны музычны слых — галоўны сакрэт майстэрства Весялоўскага. Так сцвярджаюць яго калегі. Аднак жа не адзіны. І сярод многіх іншых сакрэтаў усе, хто добра знаёмы з палескім музыкам, абавязкова назавуць яго жыццярадасны характар. Дарэчы, пасля чарговага канцэрта я пашкадаваў: своечасова заўважылі б гэтага таленавітага чалавека спецыялісты, паспрыялі б яго прафесійнай вучобе — і граў бы ён сёння ў якім-небудзь славутым аркестры. А так — пазнавата: Алесю Уладзіміравічу ўжо за пяцьдзесят... Ды крыху суцяшае сакраментальнае: шчодрая на таленты наша беларуская зямля!

**Алесь КАСКО.**

## *УСЬМЕШКА – ЗДАРОЎЕ, а здароўе – багацтва...*




**Малюнак Л. РАЗЛАДАВА.**

КСЁНДЗ І РАБІН...

На запрошаным абедзе заселі разам каталіцкі ксёндз і рабін.
– Можа кусочак шынкі? – пытае ксёндз рабіна.
– Дзякую, не, рэлігія забараняе спажываць сьвініну.
– Шкода, бо гэта вельмі смачна.
Калі госьці разыходзяцца, рабін кажа ксяндзу:
– Прывітаньне для шаноўнае жонкі.
– Ня маю жонкі. Рэлігія забараняе нам жаніцца.
– Шкода, бо гэта таксама вельмі смачна...




"Савецкі" пэнсіянер у Менску атрымаў гуманітарную дапамогу...

*Крык душы*

# Хітрасць русіфікатараў

Я зусім нядаўна даведаўся, што ў новым беларускім пашпарце не будзе графы "Нацыянальнасць". Вось так...

Дзесяткі гадоў мы цешыліся радкамі вялікага Янкі Купалы: "А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе? Беларусы". Гэта гучала як словы нацыянальнага гімна. Яшчэ зусім нядаўна мы пачыналі свой гімн: "Мы — беларусы..."

І вось, не параіўшыся з народам, нейкія тупамордыя чыноўнікі вырашылі: "Лепш будзе, калі выдаць пашпарты без азначэння нацыянальнасці..." Прабачце, гэта не памылка бесталковага чыноўніка, гэта не недагляд, а хітрасць шматвопытнага русіфікатара: "Не хочаце двухмоўя, дык з новымі пашпартамі праз гады дваччатыры не далічыцеся мільёнаў беларусаў. Усе пачнуць пісаць "рускі".

Гэта ўжо было ў нашай гісторыі. Успомніце: у гады пяцігодак (і пазней: сібірскія новабудоўлі, цаліна) мы ўрачыста выпраўлялі ў Томск і Омск, Іркуцк і Краснаярск, Арэнбург і Хабараўск, на будоўлі Поўначы і Далёкага Усходу з Беларусі і Украіны шматлікія атрады будаўнікоў, лесанарыхтоўшчыкаў, цаліннікаў...

Мы радаваліся: дружба народаў, мацнеюць братэрскія сувязі. Збіралі чыстыя падручнікі, сшыткі... А нам праз год ці два адказвалі: "Не трэба прысылаць беларускія падручнікі: нас усіх ужо запісалі, што мы рускія".

А пашпарты без графы "Нацыянальнасць"?

Гэта таксама ўжо было. Запытайце ў старэйшых, можа, хто памятае? Да рэвалюцыі ў пашпартах таксама не было графы "Нацыянальнасць". Пісалі: "праваслаўны", "іудзей" і г.д. Нацыянальнасць замянялася веравызнаннем. Царскія чыноўнікі цешыліся: "Ніякай праблемы, мацуйце веру і трымайцеся за вялікую Русь!"

Вось і сёння тупагаловыя чыноўнікі "вырашылі" нацыянальную праблему! Ніякіх беларусаў! А там пачнуць усіх пісаць рускімі.

Гэта страшэнная знявага нашай годнасці. Гэта злачынства нахабных русіфікатараў.

Нельга нават уявіць, каб грузін ці армянін, латыш ці эстонец адмовіліся ад сваёй нацыянальнасці. А ў нас? Па волі дурнога чыноўніка ўвесь народ адмаўляецца ад сваёй нацыянальнасці. Беларусы павінны з абурэннем пратэставаць супраць нечуванага здзеку з нашага народа. Як у той песні пяецца: "Мы доўга цярпелі, цярпець больш не будзем!"

А грошы за "новыя" пашпарты няхай вернуць тыя, хто прыдумаў гэты пачварны абман.

Я народжаны беларусам і хачу заставацца беларусам.

*"Народная Газета"*

**Пімен ПАНЧАНКА, народны паэт Беларусі.**

# Яны "акадэміяў не сканчалі"

*"Свабода"*

Ня ведаю, чым гэта можна растлумачыць, хіба бязладнай зьменай надвор'я — то маразы, то адліга, — але палітычнае жыцьцё ў нашым балоце нарэшце стала вельмі разнастайным. Ад самага пачатку году нашае найвышэйшае начальства бяз мыла зь імпэтам палезла ў рублёвую зону, што нават абурыла некаторых расейскіх палітыкаў. Унук дзіцячага пісьменьніка Гайдара праз гэта падаў заяву аб адстаўцы.

У палове студзеня Менск наведаў сп.Клінтан з жонкай. Ніхто з нас асабіста нічога з гэтага не атрымаў, нават якой-колечы няпэўнай абяцанкі пра даляравую зону, але засталося ў душы нейкае прыемнае ўражаньне.

Ды ўсю справу сапсавалі сябры летувісы са сваімі ермалавічусамі. Хай бы яны ціхенька сядзелі ў Менску, пісалі мэмуары ды марылі пра Літоўскую савецкую рэспубліку... То можа й не адбылося б таго, што адбылося.

### Liberum veto

Расейцы вельмі хвараўіта ставяцца да цьверджаньня, што парлямантарызм у іх ніяк не прыжывецца, бо ён ня меў трывалых гістарычных каранёў. Яны пачынаюць успамінаць веча, баярскую думу, земскі сабор, які прыняў у 1654 г. пад расейскае падданства Украіну. Парлямэнцкія традыцыі ў нас, сёньняшніх беларусаў, куды як багацейшыя — соймы існавалі паўтысячы гадоў таму. Але ў нашым Вярхоўным Савеце гэта не адчуваецца, бо там амаль спрэс савецкія людзі, якія калінікалі яшчэ ганарацца тым, што «акадэміяў не сканчалі».

У свой час Кацярына II абгрунтавала захоп Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы тым, што ў сойме з-за права свабоднага вэта нібы панаваў балаган, краіна занепадала, а таму, маўляў, давялося яе захапіць. Гэтыя высновы і сёньня можна вычытаць у беларускіх савецкіх падручніках. Карацей кажучы, парлямэнцкі лад самай дэмакратычнай некалі ў Эўропе нашай Бацькаўшчыны аніяк не адбіўся ў сьвядомасьці бальшыні членаў ВС. Белая пляма ў шэрым рэчыве.

І яшчэ напрошваецца адна фундамэнтальная выснова. Вярхоўны Савет РБ вельмі нагадвае даваенны польскі сойм. Чым? Тым, што яны аднолькава заўзята душаць беларускую справу. Беларускі пасольскі клюб тады і БНФ сёньня выконваюць амаль аднолькавую ролю. Пачытайце тагачасныя соймавыя прамовы Браніслава Тарашкевіча і параўнайце іх з прамовамі Зянона Пазьняка. Паралель абсурдная, але слушная.

### Ох ужо гэтыя «палякі»!

Мы з палякамі вельмі любім пашукаць «сваіх». Для іх, прыкладам, як толькі ў беларуса ня рускія імя й прозьвішча, дык, значыцца, гэта — паляк. Пісалі ж яшчэ ня так даўно, што Шыркоўскі, Шушкевіч ды Кебіч — «палякі». Для польскае прэсы чарговы сюрпрыз: выбралі яшчэ аднаго «іхнага» — Грыба. На першай прэс-канфэрэнцыі нехта з журналістаў памылкова зьвярнуўся да яго «Вячаслаў Францавіч». Але Кебіч, як мы ведаем, «сьціпла» адмовіўся ад Шушкевічавай пасады (хоча адразу ў прэзыдэнты). А новага старшыню ВС завуць Мечыславам Іванавічам (Янавічам?) Таксама «паляк»?!

Іранізуючы сабе гэтак, я думаю: а сапраўды файна было б, каб нехта зь іх аказаўся палякам. Тады той жа Грыб не сказаў бы «мы поидзем на Ўсход», бо паляк так ніколі ня скажа... Не, нездарма адзін з дэпутатаў-апазыцыянэраў назваў апошнія парлямэнцкія падзеі звычайнаю дурасьцю, а калі ад яго запатрабавалі «пускай извиняется!», патлумачыў: у перапынках вы самі гэта называеце «дурдомам».

### Ну стратэг, ну тактык...

Калі дзяржаву ўзначальвае генэрал або палкоўнік, ва ўсім сьвеце гэта называецца хунтай. Вось і мы маем Грыба, генэрала. Дык значыцца — хунта? Беларускі варыянт... Добра, хоць у Расеі з гэтым нічога пакуль не атрымліваецца. Генэралы Руцкі ды Макашоў у турме. Жырыноўскі пакуль, калі верыць расейскай ды польскай прэсе, усяго толькі капітан КДБ. Увогуле расейцы сёньня кпяць самі зь сябе: у іх, гавораць яны, фашызм ня пройдзе, бо дагэтуль нішто не прайшло — ні капіталізм, ні сацыялізм.

Ані тыя, хто спрабаваў перамагчы Расею ("літоўска-польскае" войска, Напалеон і г.д.), ані тыя, каго сам рускі Ваня сьціснуў у жалезных абдымках, — ніхто зь іх ня меў шчасьця. З Расеяй лепш ня зьвязвацца. Калі назіраеш апантаную падрыхтоўку тав.Кебіча да «паходу» на Ўсход, дык успамінаеш школьны вершык:

— Куда ты завёл нас, Сусанин проклятый?!

— Я сам заблудился, не видно ни зги!

Адно цешыць, што цяпер нават самы дурны беларус ня скажа, што намі кіруюць «дэмакраты». Хоць за гэта дзякуй ваяўніча-паслухмянай большасьці ВС.

**Аляксандар ГУК**

г.Ліда

*Паважаныя Чытачы! Дайце пасільную ахвяру на «Беларускі Дайджэст»...*

**Паважаныя суайчыннікі!**

*23 чэрвеня 1994 года адбудуцца першыя ў гісторыі Беларусі выбары прэзідэнта. Гэта падзея - разам з нядаўнім прыняццем Канстытуцыі дзяржавы - мае выключнае значэнне дзеля ўмацавання суверэнітэта нашай незалежнай краіны, паглыбленне працэса дэмакратызацыі ўсіх сфер жыцця.*

*Першы прэзідэнт Беларусі будзе абраны ў выніку прамога тайнага галасавання.*

*У адпаведнасці з Законам "Аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", усе грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія стала жывуць ці часова знаходзяцца ў Злучаных Штатах Амерыкі, маюць права прыняць удзел у выбарах. Галасаванне адбудзецца 23 чэрвеня г.г. з 7 гадзін раніцы да 22 гадзін на двух выбарчых участках па наступных адрасах:*

**Embassy of the Republic of Belarus**
**1619 New Hampshire Avenue, N.W.**
**Washington, D.C. 20009**

**Consulate General of the Republic of Belarus**
**708 3rd Avenue**
**18th Floor # 1802**
**New York, NY 10017**

*Тыя з выбаршчыкаў, хто не мае магчымасці ўдзельнічаць у выбарах непасрэдна 23 чэрвеня, змогуць прагаласаваць у любы дзень, пачынаючы з 13 чэрвеня, па пазначаных вышэй адрасах з 9 гадзін раніцы да 6 гадзін вечара.*

*Запрашаем прыняць удзел у выбарах і ўнесці Ваш асабісты ўклад у дэмакратыю Беларусі!*

**Пасольства Рэспублікі Беларусь**

## З АРХІЎНАГА КУФРА ...



*ВІЛЕНСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ*
ВЫПУСК 6-ай клясы, 27/28 гады.
Верхні рад, зьлева направа: Шалешка, Чартовіч, Жабінскі, Засім П., Кажанаў, Рубін В., (?) , Мацук.
Другі рад ніжэй: (?), Рак-Міхайлоўскі Р., Тарасюк, Жукоўскі, Тумаш В., (?), Кабушка, Шчасны М.
Сядзяць: Быхавец Г., Кунцэвіч М., Патомская Н., Др. Марцінчык, Гур'янава Зоя, Лукашук У., Будзька Людвіка.
Унізе: Анатоль Сакалоў і Віктар Астроўскі.

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Сп. М. Пруські!

...З цікавасьцяй і прыемнасьцяй чытаю добрыя артыкулы й усе весткі зьмешчаныя ў газэце... Хочацца прачытаць усё, што Вы так добра падбіраеце з беларускае прэсы. Жадаю Вам вытрымаласьці ў Вашай выдавецкай дзейнасьці...

М. Т.

*Прыемна чуць словы пахвалы ў адрас мае выдавецкае дзейнасьці... Шчыра дзякую!*

Сп. Выдавец!

...А ці ня можна выдаваць "Беларускі Дайджэст" штомесяц на 12 бачынках?..

А.А.

*Пэўне-ж можна, але на гэта патрэбна дадаткова $210. Прышлі гэтую суму і наступны № газэты выйдзе на 12 бачынах...Дасюль такіх дабрадзеяў я не сустракаў...*

Сп. Рэдактар!

...што беларуская маса, з малымі выняткамі, "заплесьнелая" – няма засьцярогаў. Самае балючае тое, што наша "загранічная інтэлігенцыя" проста нікудышняя... Можа хто з беларускае эліты выясьніць нам, звычайным людзям, гэтую зьяву...А так трымася на плыву і памаленьку разбудоўвай сваю (нашу) газэту...

С.

*Запраўды было-б добра каб нехта пастараўся выясьніць гэтую зьяву... А так усяго найлепшага!..*




## Будзем змагацца з палякамі?

У афіцыйнай гістарычнай навуцы Беларусі ўсё яшчэ разглядаюць свае рамяство як рэгулярныя выхады на панэль. У залежнасьці ад кан'юнктуры. Вось і цяпер «рублёвую зону» трэба апраўдаць гістарычна ды ідэалягічна. І па Інстытуце гісторыі Акадэміі навук спушчаная дырэктыва «ўзмоцніць барацьбу з польскім уплывам на Беларусі». Маўляў, занадта мы захапіліся Польшчаю, зусім забыўшыся пра свайго «старэйшага брата».

М.П.